

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша Слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 22 (510) 30 ТРАЎНЯ 2001 г.**

## Мы выйдзем шчыльнымі радамі з усіх рэгіёнаў

### З'езд грамадскасці рэгіёнаў Беларусі



З`ЕЗД ГРАМАДСКАСЦІ РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ

Змагарным гімнам беларусаў "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" адкрыўся 26 траўня З'езд грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, скліканы грамадскім рухам "Рэгіянальная Беларусь".

На з'езд прыехала 815 дэлегатаў ад 460 арганізацый з 95 раёнаў Беларусі. Было каля сотні гасцей. Сярод гасцей старшыні буйнейшых беларускіх партый і грамадскіх арганізацый: Партыі БНФ Вінцук Вячорка, БСДП ("Народная грамада") Мікола Статкевіч, партыі беларускіх "зялёных", старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў, старшыня Асамблеі няўрадавых арганізацый Алесь Бяляцкі, светары Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. Працу з'езду асвятлялі карэспандэнты 33 СМІ.

З'езд планаваўся і здзейсніўся, як дэманстрацыя заклапочанасці беларускай правінцыі лёсам Беларусі, стаўленнем правінцыі да будучых прэзідэнцкіх выбараў, дэманстрацыяй непрыймання сталічнай палітычнай і палітыканцкай вазні вакол вылучэння адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў і гатоўнасці беларускай правінцыі змагацца за лёс Беларусі, не чакаючы пакуль улягуцца сталічныя амбіцыі.

З'езд аднадушна выказаў падтрымку лідару "Рэгіянальнай Беларусі" Сямёну Домашу ў яго намеры ўключыцца ў барацьбу за пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і заявіў пра гатоўнасць рэгіянальных арганізацый палітычных партый і трэцяга сектару забяспечыць передвыбарчую кампанію Сямёна Домаша людскімі і інтэлектуальнымі рэсурсамі.

Выступоўцы ад абласцей Мікалай Яроміч (Берасце), Уладзімір Шанцаў (Магілёў), Алесь Лапіцкі (Менская вобласць), Юры Варонежцаў (Гомель), Хрыстафор Жалябаў (Віцебск), Мікола Маркевіч (Горадня), а таксама ад Саюза палякаў Тадэвуш Гавін і партыі "зялёных" Алег Грамыка паднялі фундаментальныя праблемы нашага грамадства, пачынаючы ад чарнобыльскай і заканчваючы станам СМІ.

Сямён Домаш выступіў на з'ездзе з 20-хвілінным дакладам, у якім тэзісна падняў сваё бачанне праблем Беларусі і шляхоў выхаду з сістэмнага крызісу, у які ўвагнаў краіну існы рэжым. **Даклад Сямёна Домаша чытайце на ст. 6-7.**

На прэс-канферэнцыі пасля з'езду, адказваючы на пытанне, ці не ёсць сённяшні з'езд фальшстартам, Сямён Домаш адказаў, што ***"ні ў адным дакуменце з'езду не сказана быццам мы пачынаем перадвыбарчую кампанію. Мы толькі высвятляем сітуацыю ў краіне перад выбарамі".***



**У зале рэгіянальная Беларусь.** *Здымак Артура Ганько.*

## СЛОВА

### да беларускіх пісьменнікаў

Было так,

што на адным з этапаў нашай гісторыі мы мелі самую вялікую ў Еўропе дзяржаву, самае моцнае войска, самую передавую канстытуцыю-статут, самую развітую мову, але мы не мелі прыгожага пісьменства, не стварылі мастацкай літаратуры. І страцілі дзяржаву, войска, канстытуцыю, свае назвы і імёны, страцілі літаратурную мову, страцілі пісьменства наогул.

На іншым этапе нашай гісторыі мы не мелі дзяржавы, войска, грошай, пісьменства, імя, не мелі права чалавекам звацца. Але мы стварылі "Пінскую шляхту", "Дудку беларускую", "Паўлінку" ды шмат чаго яшчэ. Нарадзілася новая літаратурная мова і ўслед адрадзіліся і пісьменства, і народ, і дзяржава. І новы этап нашай гісторыі пачаўся з таго, з чаго пачаўся ўвесь свет:

**"Напачатку было слова".**

VII з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны вітае беларускіх пісьменнікаў - носьбітаў магутнага і далікатнага, дакладнага і мастацкага, грознага і мілагучнага, непаўторнага, невычэрпнага, Беларускага Слова.

Мы лічым усіх вас разам і кожнага паасобку адданымі змагарамі за беларускую мову і дзейнымі сябрамі нашага Таварыства.

Вы -- увасабленне сілы і таленту нашага народу. Гарадамі і мястэчкамі, вёскамі і засценкамі вы пасланы ў шырокі свет дзеля праўды, дабра і прыгажосці. Але ўся Беларусь глядзіць на вас, як на змагароў, як на тых, хто можа зрабіць больш за маладых патрыётаў, больш за палітыкаў, больш за дыпламатаў і банкіраў. Бо вы -- уладары слова, і вам вераць.

Калі хіснецца Быкаў, Гілевіч, Барадулін, калі хіснецца Бураўкін, Арлоў і кожны з паўтысячы беларускіх пісьменнікаў, тады абрынуцца апошнія апоры нашай нацыі, тады перарвуцца жыватворныя сілы нашай зямлі. Бо кожны з вас, як тая крыніца, што збіраецца па кропельцы, па жылаццы з падземных абшараў, каб прарвацца ў адным месцы і напаіць паўсвету, жывіць вялікія рэкі народнага жыцця, народнай культуры.

І мы сёння заклікаем вас, тых, хто прыйшоў для прыгажосці і мастацтва, для мудрасці і справядлівасці, мы заклікаем вас да мужнасці, стойкасці і адказнасці за ўсю Беларусь, за ўвесь беларускі народ. Бо менавіта вам, абраным ад гэтага народу Богам, і даў Бог вялікае права несці ў свет Беларускае Слова.

*(Прынята на VII з'ездзе ГА ТБМ імя Ф. Скарыны).*




**Рэдактару газеты "Наша Ніва" сп. Андрэю Дынько.**
**Заснавальніку газеты сп. Паўлу Жуку.**
**Сябрам рэдакцыі і рэдакцыйнай калегіі**

25 траўня 2001 г. № 401

**Шаноўнае спадарства!**

Кіраўніцтва і ўсе сябры ТБМ імя Ф. Скарыны шчыра віншуюць Вас з 10-мі ўгодкамі адраджэння першай беларускай газеты.

Выходзячы ў надзвычай цяжкіх умовах, Вы здолелі не толькі захаваць, але і распаўсюдзіць сярод моладзі сапраўдны дух беларушчыны і еўрапейскую ментальнасць, якіх так нестае зараз шмат якім іншым незалежным выданням. Таму прыміце нашыя найлепшыя пажаданні і зычанні. Толькі разам мы пераможам! Жыве Беларусь!

З вялікай павагай і ўдзячнасцю
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**





Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ

# Даклад

## рэдактара газеты "Наша слова" VII з'езду ТБМ

Шаноўнае спадарства. Высокі з'езд.

Даводжу да вас вынікі дзейнасці рэдакцыі газеты "Наша слова" за перыяд паміж VI і VII з'ездамі.

Асноўны вынік тое, што газета выстаяла. Газета засталася органам Таварыства беларускай мовы, штотыднёвай, васьмипалоснай рэспубліканскай газетай. Раз-пораз мы вымушаны зніжаць палоснасць да чатырох, але выключна па эканамічных прычынах. І хоць у новай беларускай энцыклапедыі напісана, што "Наша слова" выдаецца, як прыватная газета, для дзяцей старэйшага школьнага ўзросту, хай гэта застанецца на сумленні выдаўцоў энцыклапедыі і аўтара артыкула, дарэчы, былога супрацоўніка рэдакцыі. "Наша слова" было, ёсць і будзе органам ТБМ і, нажаль, пакуль адзіным. Усе гаворкі пра новую газету ТБМ пакуль што застаюцца на ўзроўні гаворак.

### Ідэалагічны аспект выдання

Мы можам з усёй адказнасцю сказаць пра тое, што за апошнія гады газета "Наша слова" з органа ТБМ ператварылася ў афіцыйны орган ТБМ. Розніца паміж гэтымі тэрмінамі невялікая. Да ведама, у кожнай краіне ёсць некалькі газетаў, якія абавязаны публікаваць афіцыйныя дакументы краіны. У нас гэта "Звязда" і "Советская Белоруссия". "Наша слова" друкуе практычна ўсе дакументы з'ездаў, радаў, сакратарыятаў, канферэнцый ТБМ, перапіску кіраўніцтва ТБМ з уладамі і грамадскімі структурамі, выступы кіраўнікоў ТБМ на розных форумах і імпрэзах. Як правіла, усё гэта друкуецца без купюр, без скарачэнняў, у поўным аб'ёме. Ці правільна гэта, ці не парушаем мы нейкія прынцыпы высокай журналістыкі і незалежнасці прэсы. У гэтым пытанні рэдакцыя сыходзіць з таго, што:

1. Гэтага ніхто больш не надрукуе. Максімум зробяць рэпартаж, або пераказ. А грамадскасць заўсёды павінна мець доступ да поўнай інфармацыі. Таму тут мы, як раз, і стаім на ахове свабоднага доступу да ўсёй інфармацыі пра дзейнасць ТБМ. За апошнія годы мы зрабілі гэтую дзейнасць настолькі празрыстай, што ні адзін прадстаўнік дзяржаўных кантрольных структураў не ідзе правяраць ТБМ на прадмет выканання Статуту, рэгулярнасці правядзення радаў і сакратарыятаў.

2. Газета адлюстроўвае кожны крок ТБМ, кожны ліст, кожную сустрэчу. Таму і абмежаваўся спадар Трусаў даволі кароткім дакладам, бо ўсё было напісана ў "Нашым слове".

Рэдакцыя ніяк не ўплывала і не збіраецца ўплываць на ідэалагічную скіраванасць газеты. У нас няма ніякіх нормаў, паводле якіх у газеце праводзяцца нейкія ідэі. Уся скіраванасць газеты вызначаецца тымі ўмовамі, у якіх мы існуем. Газета не мае ні аднаго штатнага карэспандэнта. Ні "чэснага", ні "нячэснага". Усе матэрыялы, якія друкуюцца ў газеце пішуцца яе чытачамі, у большасці сваёй сябрамі ТБМ, якіх, мабыць, тут палова залы. Таму ідэалагічная скіраванасць матэрыялаў, а значыць і ўсёй газеты вызначаецца менавіта Таварыствам беларускай мовы, усім Таварыствам і кожным сябрам, які не лянуецца ўзяць асадку і напісаць пра свае праблемы і ідэі. Фактычна тыя думкі якія праходзяць праз газету – гэта вашыя думкі, тыя праблемы, якія падымаюцца – гэта вашыя праблемы. Я агучваў гэтую лічбу і адважуся паўтарыць. У газеце каля 500 няштатных карэспандэнтаў ува ўсіх рэгіёнах Беларусі. Захоўваецца прынцып, дэкляраваны яшчэ ў 1997 годзе, калі я прымаў газету. Паводле фармавання зместу газета з'яўляецца чыста народнай газетай.

Васіль Быкаў назваў нашую газету – газетай нацыі. Не трэба над гэтым пасміхацца, бо Быкаў, як заўсёды, выказаўся дакладна. І лёс "Нашага слова", і яго змест, і эканамічны стан – гэта і лёс, і змест думак, і эканамічны стан той часткі насельніцтва Беларусі, якая нягледзячы ні на што спрабуе застацца беларускай нацыяй.

### Эканамічны аспект выдання

Ці ў выступах, ці ў перапынку мне абавязкова зададуць традыцыйнае пытанне, калі газета вернецца ў Менск. Таму адразу адказваю.

Юрыдычна рэдакцыя знаходзіцца ў Менску на Румянцава, 13. У Менску выконваецца і значная праца па зборы і апрацоўцы матэрыялаў, што паступаюць у газету, а таксама частка тэхнічнай працы, набор тэкстаў і сканаванне здымкаў. Іншая частка набору, вёрстка і друк ідуць у Лідзе. Створаная біпалярнасць рэдакцыі не з'яўляецца нечым новым. Сёння на дварэ 21-е стагоддзе і на атрыманне набранага тэксту з Менска трэба няшмат больш часу, чым перанесці з суседняга кампутара.

Усё гэта так, але большасць з вас ведае, што не з вялікай радасці мы ўтварылі біпалярнасць арганізавалі. Прычынай змяшчэння часткі рэдакцыі ў Ліду з'яўляецца эканамічная сітуацыя. Газеце не хапае сродкаў. У той час, калі ТБМ – арганізацыя грамадская і магла неяк абыходзіцца ахвяраваннямі, то газета – гэта рэальная папера, рэальны друк, рэальная дастаўка.

Газета стратная. Пры знаходжанні часткі рэдакцыі ў Лідзе да выдання газеты падключаны трэці сектар Гарадзенскай вобласці. Там на Гарадзеншчыне я – старшыня абласной Асамблеі няўрадавых арганізацый, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, таму там ёсць нейкія магчымасці для прыцягнення дадатковых рэсурсаў. Наступіць лепшы час, і можна будзе назваць паіменна ўсіх, хто дапамагаў і дапамагае газеце. Сёння я хачу сказаць усім тым, хто дапамагае "Нашаму слову" агульнае: "Дзякуй!" І хай кожны пачуе яго паводле сваіх заслугаў.

Каб вярнуць газету ў Менск, або хоць зменшыць фінансавы прэс, трэба або аднавіць дзяржаўнае фінансаванне, на што пакуль што мы наўрад ці можам разлічваць, або дастаткова, каб кожны з 9-ці тысяч сяброў ТБМ сам падпісаўся на газету, ды падпісаў аднаго настаўніка беларускай мовы, якіх у нас 10000.

Другая пазіцыя нам па сілах. Патрэбна толькі добрая воля арганізацый.

### Тэхнічныя параметры газеты

Фармат А-3. Аб'ём, як правіла, - 8 палос. Колер – адзін. Наклад на сёння 4600. Апошні нумар 4900. Падпіска каля 3500 асобнікаў. Газета ідзе ува ўсе гарадскія і раённыя бібліятэкі раённых цэнтраў Беларусі. Газета ідзе ў 1600 вясковых бібліятэк. У гэтых бібліятэках наша газета – бывае адна сярод трох-чатырох ("Советской Белоруссии" або "Звязды" ды раённай).

У 3-м квартале газета пойдзе ў бібліятэкі ўсіх ВНУ, бібліятэкі Менска.

Газета ідзе ў шмат якія школы і нават дзіцячыя садкі.

Не сакрэт, што частку падпіскі для школ і бібліятэк арганізуюць нашыя арганізацыі, за што ім "Вялікі дзякуй!"

Газета прадаецца ў шапіках усіх гарадоў і раёнаў Беларусі за выключэннем 2-х раёнаў Чарнобыльскай зоны, дзе шапікаў няма.

Але ў нас ёсць такія раёны, дзе за год не купілі ні адной газеты.

З 1997 года, калі было адноўлена выданне газеты выйшла ўжо 178 нумароў.

24 сакавіка мы ўрачыста адсвяткавалі выхад 500-га нумара газеты. Як бы цяжка не было, а 11 гадоў газета нясе беларускае слова.

Мы занялі сваё месца на рынку СМІ. Уваходзім у Беларускую асацыяцыю журналістаў, у Асацыяцыю выдаўцоў і рэдактараў рэгіянальнай прэсы.

Мы прызнаны дзяржаўнымі і недзяржаўнымі структурамі. Прызнанне дзяржавы выразілася ў тым, што ў 2000-м годзе газета атрымала папярэджанне ад Дзяржкамдруку за публікацыю звароту Гарадзенскай арганізацыі дэмакратычных ветэранаў.

Мы пераканалі Дзяржкамдрук у тым, што яны не маюць рацыі, і папярэджанне было знятае, што бывае нячаста. Папярэджанне было знята без суда.

Прызнанне недзяржаўных структур, дакладней СМІ выражаецца ў перыядычных выпадах у адрас газеты на іх старонках. На гэты конт пазіцыя такая. Мы не адказвалі і не будзем адказваць ні на якія публіцыстычныя практыкаванні.

Мы не збіраемся радаваць нашых непрыяцеляў перапалкай з дэмакратычнымі газетамі. Усе выпады ў наш адрас хай застаюцца на сумленні іх аўтараў. Прымаўка "Бі сваіх, каб чужыя баяліся" не для нас. У нас дастаткова праблем больш сур'ёзных.

Мы ведаем свае недахопы наконт арфаграфіі. Калі чуць-чуць палепшыцца фінансавая сітуацыя, я ўвяду яшчэ адну вычытку. Будзем працаваць над дызайнам і зместам.

Мы павінны будзем сфармаваць новы склад рэдкалегіі і пажадана, каб у ёй былі прадстаўлены ўсе рэгіёны.

Шаноўнае спадарства. У заключэнні свайго дакладу я хацеў бы падкрэсліць выключную важнасць газеты для самога існавання нашай арганізацыі. Мы адзіная грамадская арганізацыя, якая мае афіцыйную рэспубліканскую газету. І наш выключны абавязак зрабіць усё магчымае, каб газета прадаўжала выходзіць і развівацца.

*Станіслаў Суднік.*

# Гаварыце па-чалавечы

**Прывітальнае слова Джона Кунштадтэра, намесніка галавы місіі Злучаных Штатаў Амерыкі да VII з'езду ТБМ**

**Шаноўнае спадарства,**

Ад імя Амерыканскай амбасады я хацеў бы адзначыць, што гэта вялікі, неверагодны гонар – рабіць прамову на Сёмым з'ездзе Таварыства беларускай мовы. Ваша Таварыства ўвасабляе традыцыі гуманізму, якія робяць беларускую культуру такой высакароднай, неад'емнай часткай еўрапейскай цывілізацыі.

Людзі добрыя,
**Говорите по-человечески!**

Няма неабходнасці абмяркоўваць цнатлівасць ды бескультур'е, што стаяць па-за гэтай фразай. Вы ўсе ведаеце шмат лепш за мяне, чаго каштуе такая пазіцыя.

Хутчэй трэба высьветліць, што рабіць з такім стаўленнем.

Таму прапаную разгледзець тры асьпекты беларускай мовы.

Перш за ўсё, у якіх умовах знаходзіцца беларуская мова. Давайце параўнаем. Ні адзін нармалёвы чалавек (магчыма, існуюць ненармалёвыя), ні адзін нармалёвы чалавек не спытаецца пра выкарыстанне Вацлавам Гавелам чэскай мовы. Чэская мова – звычайная еўрапейская мова, на якой размаўляюць 10 мільёнаў людзей, на якую ў шаснаццатым стагоддзі была перакладзена Біблія, мова з багатай літаратурай Адраджэння і гуманізму. Але да тысяча семсот дзевяностага года чэская мова была скасаваная да некалькіх соцен слоў, што выкарыстоўваліся ў сельскай мясцовасьці: "вілы", "вядро", "салома". Спатрэбіліся мужныя, упартыя намаганні жменькі людзей, а потым некалькіх груп людзей, каб паступова, на працягу дзесяцігоддзяў, адрадзіць чэскую мову.

Беларуская мова праходзіла праз перыяды ўціску, напрыклад, у 1933 ці ў апошнія некалькі гадоў. Але ваша мова ніколі не была ў такім заняпадзе, як чэская. Вы маеце жывую, жыватворную мову, праз якую

*Душою ты стаў чысцей*
*І не страціў сьвятое штосьці.*

Людзі добрыя,
**Говорите по-человечески!**

Другі аспект, які я прапаную разгледзець, гэта на якой мове трэба размаўляць. Выкарыстанне Тарашкевіцы ў якасці асновы відавочна разумна, і я б хацеў выказаць захапленні тымі, хто па-трошку ўзнаўляе гэтую якасную аснову беларускай мовы. Я гавару: "Ўзнаўляе", таму што вашу мову не трэба адраджаць. Яна ўжо квітнее. Але па аналогіі з тым, як гаварыў наш вялікі прэзідэнт Абраам Лінкальн пра нашу нацыю, трэба забяспечыць не адраджэнне беларускай мовы, а яе новае нараджэнне. Важна, каб беларуская мова развівалася натуралёва, без складанасьцяў, без умяшальніцтва зверху.

Людзі добрыя,
**Говорите по-человечески!**

Трэці аспект, які я хацеў бы закрануць, гэта паняцце рэспублікі. Я маю на ўвазе "рэспублікі" не ў імперыялістычным сэнсе, у якім гэтае слова часта неправільна выкарыстоўваецца ў гэтай частцы свету. Я маю на ўвазе "Рэс публіка" – агульная справа грамадства.

Усе мы, хто навучыўся шанаваць і любіць беларускую мову, больш за ўсё спадзяёмся на тое, што вы будзеце рабіць яе не каставай мовай – мовай так-званай эліты ці мовай вёскі, а мовай агульнаграмадзянскай, той, што развіваецца натуралёва, самастойна, у працэсе выкарыстання грамадзянамі без комплексаў, без дырэктыў. Магчыма, гэты апошні аспект цяжка ўспрымаць тым, хто столькі намаганняў прыкладае для захавання беларускай мовы. Ёсць рызыка ў тым, каб адпусціць мову на волю, таму што натуралёвым, дэмакратычным чынам з'явяцца словы, выразы, сказы, якія будуць здавацца не чыста беларускімі. Але калі пасля новага нараджэння беларуская мова будзе адпушчана на волю, беларусы, беларуская мова, беларушчына і Беларусь змогуць наблізіцца да таго зьвязу, пра які столькі гавораць -- Эўразьвязу.

Людзі добрыя,
**Гаварыце па-чалавечы!**

Віншую вас з тым, што вы ўжо гаворыце **па-чалавечы,** і з вялікім задавальненнем саступаю, прамаўляючы:

**"Жыве... Таварыства беларускай мовы!"**

*(Захаваны правапіс арыгіналу.)*





Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ

# Дзяржаўная моўная палітыка Беларусі на сучасным этапе

## Даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча, падрыхтаваны да VII з'езду ТБМ, але не прачытаны з-за адсутнасці ў зале прадстаўнікоў уладаў

Усе народы планеты Зямля, якім пашчасціла вызваліцца ад нацыянальнага прыгнёту, захаваць сябе як самастойную этнакультурную супольнасць і якія сёння сваёй прысутнасцю ўзбагачаюць, робяць больш прыгожай і размаітай сусветную цывілізацыю, дасягнулі такога прыстойнага становішча, толькі дзякуючы апоры на ўласную дзяржаву.

На працягу апошніх чатырох стагоддзяў, нас, беларусаў, вельмі рэдка радавалі такой павагай усе дзяржаўныя рэжымы. Наадварот, у першую чаргу самі дзяржавы, што ў гэты перыяд гісторыі распараджаліся беларускай зямлёй, бязлітасна нішчылі прыродныя асновы спрадвечнай культуры яе карэннага насельніцтва, усяк пазбаўлялі яго ведання сваёй айчыннай гісторыі. Спачатку гэта ажыццяўлялася пад сцягам паланізацыі, затым – паланізацыі і русіфікацыі і нарэшце – толькі русіфікацыі, закладнікамі якой і сёння з'яўляецца абсалютная большасць беларусаў, якія па тых ці іншых прычынах не ў стане ўзвысіцца да такой ступені, каб з горда ўзнятай галавой заставацца ў роднай мове беларусам і ў варунках сучаснай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Яе сённяшнімі, проста ашаламляльнымі, вынікамі былі б вельмі задаволеныя руская імператрыца Кацярына II, якая дала пачатак дэнацыяналізацыі беларусаў, а таксама галоўны начальнік Паўночна-Заходняга краю, г. зн. Беларусі, Міхаіл Мураўёў – аўтар канцэпцыі па пераўтварэнні гэтага краю ў тыпова рускі. Дасягнуць жа такой ганебнай мэты маркавалася галоўным чынам дзякуючы заснаванню адпаведнай сістэмы народнай адукацыі, як гэта робіцца і сёння.

Бясконца радаваўся б поспехам сучаснай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі на Беларусі старшыня Савета Міністраў Расіі ў 1906-1911 гг. Пётр Сталыпін, бо бачыў бы ў гэтай палітыцы практычнае ажыццяўленне сваёй рэакцыйнай, шавіністычнай задумы. За пяць месяцаў да смяротнага ранення агентам "ахранкі" ў Кіеве (1 верасня 1911 г.) ён так сфармуляваў дзяржаўную палітыку Расіі па беларускім пытанні: "Мэта наша паставіць крыж на племяннай палітычнай барацьбе, якая тут *(на Беларусі. – Л.Л.)* вядзецца, і абараніць тут уладарным і рашучым словам расійскія асновы... Заходні край *(Беларусь. – Л. Л.)* ёсць і будзе краем рускім назаўжды і навекі".

Як вядома, падзеі, што адбываліся ў Расіі пасля смерці П. Сталыпіна, а пазней – у СССР, у пэўнай ступені прытармазілі рэалізацыю планаў гэтага заўзятага праваднікa царскай палітыкі русіфікацыі карэнных жыхароў Беларусі. Нават камуністычныя ідэолагі і тыя з чыста тактычных меркаванняў стараліся весці гэтую брудную працу ў больш-менш памяркоўных маштабах, у завуаляваных формах. Затое нечувана спрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення агіднай, антычалавечнай палітыкі русіфікацыі склаліся ў "суверэннай" Рэспубліцы Беларусь пасля ўсталявання ў ёй у 1994 г. прэзідэнцкай формы кіравання. Напачатку для гэтага не існавала нібыта, аніякіх падстаў: першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, ад якога раней не даводзілася чуць афіцыйных беларускамоўных выступленняў, звярнуўся да народа, паклаўшы руку на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, на яго прыроднай мове. Аднак тон тагачасных публікацый па моўным пытанні ў афіцыйнай прэсе не даваў сур'ёзных надзей на далейшае захаванне і тым больш на ўмацаванне пазіцый роднага слова беларусаў. Са старонак газет не сыходзілі матэрыялы аб неабходнасці пераходу ў краіне да афіцыйнага беларуска-рускага двухмоўя. Добры штуршок для гэтага даў сам А. Лукашэнка. Выступаючы ў канцы 1994 г. перад кіраўнікамі Гомельскага аблвыканкаму, ён вельмі нізка ацаніў лінгвістычныя якасці беларускай мовы, прызнаў яе зусім няздатнай быць сродкам выказвання сур'ёзных думак. За гэта адразу ўчапіўся магутны, сфармаваны рускаамоўнай сістэмай народнай адукацыі Беларусі дэнацыяналізаваны пласт інтэлігенцыі, які займаў практычна ўсе ключавыя пазіцыі ў сферы дзяржаўнай палітыкі, сродках масавай інфармацыі, афіцыйных ідэалагічных установах. Прадстаўнікі такой інтэлігенцыі, абапіраючыся на шматлікі, як у цэнтры, так і ў нізах рускамоўны клан дзяржаўных дзеячоў, пачалі інтэнсіўна навязваць народу думку аб мэтазгоднасці існавання на Беларусі афіцыйнага дзвюхмоўя. Публікацыі ці выказванні адваротнага характару не дапускаліся ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Пры такой аднабокай ідэалагічнай апрацоўцы людзей, якія, дзякуючы ўсёй папярэдняй нацыянальнай палітыцы кампартыі ў пытаннях культурна-моўнага жыцця, не вызначаліся добрымі ведамі пра ролю роднага слова, не ўяўлялася асаблівай цяжкасцю схіліць шырокія колы грамадскасці да прызнання неабходнасці забяспячэння ў краіне сацыяльнай роўнасці паміж беларускай і рускай мовамі. Моцна пераканаyя ў падтрымцы пераважнай часткай людзей гэтай звонку вельмі гуманнай і зусім бяспечнай ідэі, палітыкі і ідэолагі вывелі іх 14 траўня 1995 г. на рэферэндум. За колькі дзён да яго выбаршчыкаў старанна вучылі па радыё і тэлебачанні, на старонках газет, як трэба вадзіць рукой па білютэні, каб руская мова атрымала роўныя з беларускай мовай юрыдычныя правы ў афіцыйным жыцці. Навучылі. Выбаршчыкі падтрымалі, праўда нязначнай бальшынёй, вынесеную дзяржавай на рэферэндум ідэю. Затое дзяржава ні ў першыя дні пасля гэтай масавай акцыі, ні пазней не падтрымала волі выбаршчыкаў аб забяспячэнні роўнасці беларускай і рускай моваў. Такога імкнення з боку ўладных структур не назіраецца і сёння, таму майскі рэферэндум 1995 г. мы з поўным правам можам назваць падманам веку.

Эталонам моўнай палітыкі сучаснай беларускай дзяржавы з'яўляецца стаўленне да гэтай праблемы толькі моцна здэнацыяналізаванага, зрусіфікаванага насельніцтва краіны. Каб такім прынцыпам кіравалася, да прыкладу, урады Чэхаславакіі, Венгрыі і іншых краін, што сталі нацыянальна незалежнымі ў выніку паражэння ў 1918 г. кайзераўскай Германіі, распаду Аўстра-Венгерскай імперыі, на этнічнай карце Еўропы ўжо даўно не існавалі б чэхі, славакі, венгры. Наадварот, урады пералічаных народаў зусім не пабаяліся абаперціся на крайне мізэрную па колькасці іх неанямечаную частку, якая ў гранічна кароткі тэрмін зрабілася абсалютнай большасцю чэхаў, славакаў і венграў. Нічога не атрымалася б і ўва ўлады Ізраіля са стварэннем уласнай дзяржавы, нацыянальна-культурным адраджэннем свайго народу, калі б яны ў сваёй моўнай палітыцы зыходзілді не з інтарэсаў нязначнай па колькасці часткі насельніцтва, што валодала сваёй спрадвечнай роднай мовай іўрытам, сталі кіравацца настроямі тых пераважных па колькасці катэгорый людзей, што карысталіся самымі распаўсюджанымі ў свеце мовамі. Наш дзяржаўны апарат свядома не пайшоў на такое, бо быў сам дашчэнту зрусіфікаваны, цалкам арыентаваўся і ў моўнай палітыцы на падобныя яму пласты зрусіфікаваных грамадзян, на якія прыпадала абсалютная бальшыня насельніцтва краіны. Моўныя ж ідэалы самай нацыянальна-элітарнай, але колькасна мізэрнай часткі беларукага народа, якая кітайскай сцяной адгарадзілася ад шкоднага ўздзеяння русіфікацыі, не выракалася роднага слова, працягвала заставацца носьбітам сваёй прыроднай культуры, не былі ўзятыя пад увагу ўрадам Рэспублікі Беларусь. Сваімі рашучымі захадамі ён не толькі аднавіў, але і значна пашырыў аб'ём тых сацыяльных функцый рускай мовы, якія яна выконвала да прыняцця 26 студзеня 1990 г. закона "Аб мовах у Беларускай ССР".

Пасля правядзення ў траўні 1995 г. моўнага рэферэндуму мінула шэсць гадоў, а дзяржава не зрабіла аніводнага кроку па рэалізацыі выказаных праз яго пажаданняў, галоўным з якіх з'ўлялася забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай мовам у афіцыйным жыцці. У ім не знайсці аніводнай сферы, у якой бы такая роўнасць мела месца. Асабліва гэта характэрна службоваму справаводству дзяржаўнага апарату, дзейнасць якога практычна цалкам абслугоўваецца рускай мовай. Падобнае можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Змізарнела роля беларускай мовы на радыё і тэлебачанні, зусім адсутнічае яна пры дэманстрацыі кінафільмаў. Пры такой штучна створанай дзяржавай сацыяльнай незапатрабаванасці беларускай мовы ў яе няма аніякіх надзей на выжыванне. Аднак гэта ніколькі не хвалюе дзяржаву.

Ствараецца ўражанне, што дзяржава па сваёй ці чужой волі свядома не дапускае роднае слова тытульнай нацыі краіны ў афіцыйнае жыццё ў надзеі, што неўзабаве адбудзецца франтальнае забыццё гэтага слова людзьмі, і яны ў час чарговага рэферэндуму нават выкажуцца за наданне статусу адзінай дзяржаўнай мовы толькі рускай мове.

Яшчэ ніколі на беларусаў не навальваліся такія велізарныя русіфікатарскія плыні, як сёння. Дайшло да таго, што ідэолагі русіфікатаркай палітыкі, якія з'яўляюцца непадзельнымі гаспадарамі ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, публічна заяўляюць аб адсутнасці ў самой прыродзе самабытнага беларускага народа, адмаўляюць наяўнасць у яго ў мінулым уласнай дзяржавы і сцвярджаюць аб нямэтазгоднасці мець яе на сучасным этапе, бо гэта можа крайне негатыўна адбіцца на палітычнай інтэграцыі нашай краіны з Расіяй.

Апошнім часам для афіцыйнай прапаганды вельмі ходкім стала сцвярджэнне пра неверагодна вялікую блізкасць беларускай і рускай моваў, а сёй-той нават гаворыць ледзь не пра поўнае іх падабенства, таму, маўляў, няма падставаў для хвалявання, што ў нас спрэс сацыяльныя функцыі застаюцца за рускай мовай. На самай жа справе ва ўсім гэтым трэба бачыць імкненне дзяржаўных дзеячоў і адданых ім ідэолагаў утаіць ад народа праўду, стварыць у яго ўражанне аб адсутнасці ў нас афіцыйнай палітыкі русіфікацыі. Вучоныя-філолагі ўжо даўно з належнай матэматычнай дакладнасцю падлічылі колькасць марфалагічных і фанетычных адрозненняў паміж беларускай і рускай мовамі. Такіх адрозненняў цалкам стае для таго, каб называць гэтыя мовы адрознымі адна ад адной, самабытнымі і арыгінальнымі. Вельмі добра такія адрозненні бачаць і прадстаўнікі нашай рускай дыяспары, бо каб не бачылі, дык, напэўна, значна большы працэнт з іх называў бы беларускую мову роднай. А адпаведна ж з перапісам 1999 г. толькі 9,1% рускіх прызналі яе роднай. У палякаў Беларусі такі паказчык дасягаў 67,1%, яўрэяў – 17,1%, ва ўкраінцаў – 14,3%, у прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў – 12%. Як бачым, руская меншыня крайне неахвотна прызнае за родную мову беларусаў, на этнічнай тэрыторыі якіх яна пражывае. Усё гэта трэба мець на ўвазе на выпадак чарговага вяртання да дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі. Рыхтаваць да яе рускую дыяспару трэба з большай стараннасцю і адказнасцю, чым прадстаўнікоў якіх-небудзь іншых нацыянальных меншыняў. Гэтая самая шматлікая ў нас дыяспара можа пайсці на любыя формы супраціўлення беларусізацыі, паколькі яна будзе бачыць, што пры ажыццяўленні такой палітыкі адбываецца звужэнне сацыяльных функцый менавіта яе мовы, а не мовы якой-небудзь іншай этнічнай супольнасці. Каб гэта не закранула нацыянальнага гонару рускіх, ім трэба вельмі пераканаўча давесці, якім чынам іх мова трапіла і запанавала ў Беларускім краі і якую страшэнную пагрозу ўяўляе яна для роднай мовы яго карэнных жыхароў, што іншага сродку выратаваць, нагрузіць апошнюю сацыяльнымі функцыямі няма, як толькі ў значнай ступені вызваліць рускую мову ад іх выкання.

Нарэшце не будзем забывацца, што такія крайне неабходныя захады па звужэнні афіцыйнай сферы дзейнасці роднага слова рускіх не заўсёды будуць знаходзіць поўнае разуменне і падтрымку з боку рускамоўных этнічных беларусаў нашай краіны. Таму і тут не ўхіліцца ад правядзення самай глыбокапрадуманай растлумачанай працы з людзьмі, што па розных прычынах адышлі ад свайго роднага беларускага слова.

Не можа не непакоіць, што мэтанакіраваны курс дзяржавы на пашырэнне сацыяльных функцый рускай мовы за кошт усё таго ж далейшага звужэння такіх функцый беларускай мовы парадзіў апатыю ў многіх яе носьбітаў і прыхільнікаў. Усё больш і больш людзей – і галоўнае з ліку інтэлігенцыі – не бачаць перспектывы змагання за забеспячэнне беларускай мове рэальнага статусу адзінай дзяржаўнай у варунках існавання ў краіне сучаснага палітычнага рэжыму і ўсе надзеі на лепшае ў нацыянальным жыцці звязваюць з прыходам да ўлады новага лідэра. Лідэр можа прыйсці. Але, нават, калі ён асабіста і будзе займаць прабеларускую пазіцыю ў пытаннях мовы, яму давядзецца лічыцца з прарускімі настроямі таго вялізарнага чыноўніцкага апарату, які, напэўна ж пастараецца захаваць за сабою ўладу. Рашуча выступіць супраць яго мала хто адважыцца нават з самых смелых палітычных лідэраў, самых адданых беларускай нацыянальнай ідэі дзяржаўных дзеячоў. Па буйнаму памыляюцца тыя, што цалкам выключаюць умяшанне Масквы ў моўную палітыку Беларусі незалежна ад таго, будзе мяняцца яе палітычнае кіраўніцтва ці не. Многім з нас не раз даводзілася чуць і чытаць, як неабыякава ставяцца ў Расіі да стану рускай мовы ў краінах, што ўтвораны на базе колішніх рэспублік СССР. І Расію лёгка зразумець, бо належнае распаўсюджанне мовы яе тытульнай нацыі ў такіх краінах аблягчае ажыццяўляць пэўныя формы ўплыву на апошніх, рабіць спробы палітычнага аб'яднання іх пад сваёй эгідай. І нідзе Расіі не ўдаецца гэтак паспяхова дамагацца такіх мэтаў з дапамогай моўнага фактару, як у нашым краі. Ёй куды лягчэй адмовіцца ад газа- і нафтаправодаў, што ідуць праз нашу краіну, ліквідаваць размешчаныя тут свае вайсковыя базы, перастаць выкарыстоўваць яе паветраныя трасы, чым пагадзіцца на пазбаў-ленне рускай мовы статусу дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь.

*(Заканчэнне на ст. 4)*




№ 22 (510) 30 ТРАЎНЯ 2001 г. Наша Слова

Дакументы і матэрыялы VII з'езду ТБМ

# Дзяржаўная моўная палітыка Беларусі на сучасным этапе

## Даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча, падрыхтаваны да VII з'езду ТБМ, але не прачытаны з-за адсутнасці ў зале прадстаўнікоў уладаў

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3)*

Зусім лагічна, што панаванне рускай мовы ў афіцыйным жыцці Беларусі многімі палітыкамі і інтэлігентамі Расіі разглядаецца як самая найважнейшая культурная заваёва яе, як самы вялікі капітал. Пры любым палітычным рэжыме на Беларусі Расія ніколі добраахвотна не адмовіцца ад гэтай заваёвы, таму нам нават і ў самай аддаленай перспектыве давядзецца ўвесь час шукаць шляхі і сродкі дзеля абмежавання сацыяльных функцый рускай мовы з тым, каб знайсці хоць бы якую-небудзь нішу для свайго роднага слова. Безумоўна, прыхільнае стаўленне да яго дзяржавы, значна аблегчыла б развязванне гэтай лёсавызначальнай для беларусаў праблемы. Пры захаванні ж сучаснага палітычнага рэжыму ці пры працягу яго курсу ў галіне мовы іншымі сродкамі мы не можам разлічваць нават на самую мізэрную падтрымку ад уладных структур, таму вядучае месца ў нашай дзейнасці павінна заняць нацыянальная культурна-асветніцкая праца ў шырокіх колах народа. Пад нечувана моцным уздзеяннем афіцыйнай ідэалогіі яны вельмі далёкія ад правільнага разумення сапраўднай ролі беларускай мовы ў нацыянальна-дзяржаўным і духоўным развіцці Бацькаўшчыны.

Першым, што трэба зрабіць, - гэта абвясціць адзін з дзён года святам беларускай мовы. Ім могуць быць дата выхаду ў свет першага нумара газет "Мужыцкая праўда" і "Нашай нівы", дата заснавання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны альбо прыняцця закона "Аб мовах у беларускай ССР". Неабходнасць устанаўлення свята беларускай мовы дыктуецца тым, што пры правядзенні ў нас дзён славянскай пісьменнасці амаль цалкам выпадае нацыянальны фактар, і мы больш гаворым пра ўяўныя агульнаславянскія інтарэсы, чым уласна беларускі, які знаходзіцца ў поўнай знявазе. Адзначаць свята беларускай мовы трэба з усёй урачыстасцю, каб людзі пераконваліся, што гэта для іх не абы якая шараговая з'ява, а само жыццё.

Другое, што можа істотна паспрыяць росту беларускамоўнай актыўнасці ў краіне і, нават, пры поўнай абыякавасці, адкрытай перашкодзе дзяржаўных уладаў, - гэта правядзенне ў яе сталіцы, кожным абласным і раённым цэнтрах, ува ўсіх буйных населеных пунктах канферэнцый на тэму: "XX стагоддзе ў лёсе беларускай мовы". Мэтазгодна, каб спачатку адбылася такая рэспубліканская канферэнцыя, матэрыялы якой дапамаглі б лепш вызначыць пытанні, што заслугоўваюць быць разгледжанымі на канферэнцыях больш нізкага рангу.

Трэцяе – гэта выданне на месцах рознага роду публікацый (кніг, брашур, плакатаў) пра ўклад той ці іншай тэрытарыяльнай адзінкі (горада, раёна) у моўную культуру беларускага народа. Дасягненні ў гэтым – і прычым даволі значныя, - ёсць у кожнага раёна і нават сярэдняга паводле сваіх памераў населенага пункта. У такіх публікацыях могуць быць асветлены самыя розныя пытанні па моўнай праблеме: дзейнасць беларускамоўных культурна-выхаваўчых і навучальных устаноў, рэдакцый раённых газет, праца на ніве беларускай літаратуры ўраджэнцаў дадзенай мясцовасці, незалежна ад таго, дзе ім даводзілася і даводзіцца тварыць. Штосьці самае цікавае з напісанага імі абавязкова трэба змясціць на старонках кніг, што будуць выдавацца ў межах той ці іншай мясцовасці. Азнаямленне са зместам такіх публікацый не пакіне ў абыякавасці ні сталага ўзросту, ні маладыя пакаленні. Можна не сумнявацца, што знойдуцца прадпрыемствы і ўстановы, прыватныя асобы, згодныя фінансава забяспечыць выданне такіх кніг і брашур.

Словам, пэўныя рэзервы для праяўлення нацыянальна-моўнай актыўнасці ў нас ёсць нават пры поўнай абыякавасці да адраджэнскіх працэсаў дзяржавы. Зразумела, без яе ўдзелу вельмі цяжка дасягнуць сапраўдных зрухаў у вяртанні беларускай мовы да нармальнага жыцця. Але калі кожнаму носьбіту беларускай мовы ўдасца выцягнуць з асіміляцыйнага пекла хоць аднаго супляменніка – гэта ўжо перамога, дзеля дасягнення якой не варта шкадаваць ні энергіі, ні часу. Нацыянальна актыўныя людзі належным чынам будуць ушанаваныя нашымі ўдзячнымі нашчадкамі, а ідэолагаў і праваднікоў сучаснай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі беларускага народу яны назавуць лютымі ворагамі любай Бацькаўшчыны, без усялякага шкадавання выкінуць у скрынку для смецця. Праціўнікі беларушчыны дарэмна цешаць сябе крывавымі здабыткамі ў дэнацыяналізацыі карэнных насельнікаў нашай зямлі. Яны не раз здзіўлялі свет сваім умельствам і жаданнем этнічнага, нацыянальнага адраджэння здавалася б нават і ва ўмовах архібезнадзейнага становішча. І на гэты раз абавязкова прыйдзе прасвятленне ў галовы беларусаў, і яны стануць пераможцамі ў барацьбе з афіцыйнай палітыкай русіфікацыі, хаця галоўнай сілай яе з'яўляецца вялізны па колькасці чыноўніцкі і ідэалагічны аппарат уласнай дзяржавы, моцна адарваны ад нацыянальна-культурных і моўных традыцый яе тытульнага народа.

Беларускі культурна-моўны нігілізм гэтага апарату яскрава выявіўся падчас правядзення 18 траўня г. г. у Менску Другога ўсебеларускага сходу. За дзень да яго адкрыцця ўдзельнікаў гэтага прадстаўнічага форуму пазнаёмілі з досыць багатай канцэртнай праграмай, у якой яўна пераважаў беларускамоўны элемент, што апошнім часам вельмі рэдка назіраецца на канцэртах. Міжволі падумалася, што паслухаўшы мілагучную беларускую мову ў песенным варыянце на ёй на наступны дзень загаворыць хоць адзін дэлегат. На маё вялікае здзіўленне, такога не здарылася: ніводзін з чыноўнікаў не звярнуўся пабеларуску да прысутных у зале.

Спыняюся на гэтай прыкрай з'яве зусім не таму, што хачу ўнізіць ці вынесці строгі прысуд дэлегатам сходу. Не будзем забывацца, што і яны, як увесь беларускі народ, за час камуністычнага рэжыму і ў апошнія пяць-шэсць гадоў праглынулі ільвіную долю русіфікацыі. Звяртаю ўвагу на беларускамоўны нігілізм дэлегатаў другога ўсебеларускага сходу толькі з адною адзінаю мэтаю, каб самымі свежымі фактамі пацвердзіць і поўную няздольнасць і ўпартае нежаданне сучаснай дзяржаўнай машыны нашай краіны працаваць у рэчышчы яе прыроднай культурна-моўнай стыхіі. Такая адарванасць дзяржаўнага чыноўніцкага апарату ад духоўных традыцый беларускай нацыі і яго адкрыты намер інтэгравацца ў Расію з канчаткова абруселым насельніцтвам Рэспублікі Беларусь абавязваюць усе здаровыя, нездэнацыяналізаваныя сілы грамадства яшчэ з большай энергіяй і ўпартасцю весці змаганне за выратаванне беларускай мовы на той тэрыторыі, дзе толькі адна яна мае законнае права быць паўнаўладнай гаспадыняй.

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб рэвізійных камісіях Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" і яго першасных арганізацый

**Агульныя патрабаванні.**

Дзейнасць рэвізійных камісій ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" павінна ажыццяўляцца ў адпаведнасці са Статутам і дзейным заканадаўствам. Рэвізійныя камісіі абіраюцца на з'ездах ТБМ, канферэнцыях, сходах ТБМ. Рэвізійныя камісіі, іх кіраўнікі абіраюцца на тэрмін паўнамоцтваў падкантрольнага кіраўнічага органа.

Камісіі дзейнічаюць згодна з падрыхтаваным планам работы, заявамі, прапановамі сяброў ТБМ, лістамі юрыдычных органаў, органу, пры якім стаіць на ўліку рэгіянальная арганізацыя (суполка).

Сябры рэвізійных камісій ТБМ маюць права прысутнічаць на ўсіх паседжаннях падкантрольных кіраўнічых органаў, канферэнцыях, сходах рэгіянальных (першасных) арганізацый суполак. Камісіі маюць права праверкі іх дзейнасці адпаведна статуту і дзейнаму заканадаўству.

Рэвізійныя камісіі могуць прыцягваць да ўдзелу ў праверках кампетэнтных сяброў ТБМ, альбо спецыялістаў, у залежнасці ад спецыфікі праверкі.

Дзейнасць рэвізійных камісій праводзіцца на грамадскіх пачатках.

Рэвізійныя камісіі не маюць права ўмешвацца ў працу кіраўнічага органу, ніжэйшых органаў і іх рэвізійных камісій за выключэннем, калі гэта праца пярэчыць Статуту, прынятым Законам.

На паседжаннях кіраўнічых органаў сябры рэвізійнай камісіі маюць дарадчы голас.

Па выніках праверкі рэвізійнымі камісіямі афармляюцца акты, адзін асобнік якога накіроўваецца ў падкантрольны орган для рэагавання. Пры выяўленні грубых парушэнняў, недахопаў, якія патрабуюць правядзення нечарговай канферэнцыі (сходу) адзін асобнік акту накіроўваецца ў Раду вышэйшай арганізацыі альбо ў Рэспубліканскую Раду.

Рэвізійная камісія ГА ТБМ падсправаздачна з'езду, у першасных арганізацыях рэвізійныя камісіі падсправаздачныя канферэнцыям, сходам сяброў ТБМ. Аб сваёй дзейнасці камісіі даюць справаздачу ў адпаведных дакладах, зацверджаных на паседжаннях камісій, на справаздачна-выбарчых форумах.

Камісіі абавязаны перыядычна інфармаваць сяброў ТБМ пра сваю дзейнасць праз наяўныя сродкі інфармацыі, альбо на чарговых канферэнцыях, сходах. Паседжанні камісіі праводзяцца не радзей аднаго раза ў паўгода. Напярэдадні справаздачна-выбарчага з'езду, канферэнцыі, сходу камісія абавязана правесці рэвізійную праверку падкантрольнага органу.

**Асноўныя абавязкі рэвізійнай камісіі.**

1. Кантроль за дзейнасцю выбраных і структурных падраздзяленняў Таварыства ў адпаведнасці са Статутам ТБМ і дзейным заканадаўствам.
2. Кантроль выканання патрабаванняў Статуту сябрамі ТБМ.
3. Дакументальная рэвізія фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рады, падведамасных ёй устаноў, органаў. Кантроль выкарыстоўвання імі грошавых сродкаў, што паступаюць ад першасных арганізацый (сяброў ТБМ), грашовых і іншых ахвяраванняў ад грамадзян і ўстаноў, законнасці і гаспадарчай мэтазгоднасці праведзеных выдаткаў.
4. Праверка выканання плана работы, рашэнняў, пастаноў з'езду, канферэнцый, сходаў, самога кіраўнічага органа, заўваг, прапаноў, запісаных у актах праверак.
5. Праверка своечасовасці разгляду і рэагавання на прапановы, заявы.
6. Праверка стану вядзення справаводства.
7. Кантроль стану захавання грашовых сродкаў і матэрыяльных каштоўнасцяў.
8. Праверка арганізацыі ўліку сяброў Таварыства.
9. Кантроль правамоцнасці правядзення з'ездаў, канферэнцый, сходаў, паседжанняў Рэспубліканскай Рады і іншых органаў.

***Прынята на VII з'ездзе ТБМ.***

# Мы вітаем з'езд Нацыянальнага міністэрства адукацыі

Таварыства беларускай школы, якому сёлета спаўняецца 80 гадоў, справу якога мы працягваем разам, вітае чарговы з'езд старэйшай дэмакратычнай арганізацыі Беларусі Таварыства беларускай мовы, ля вытокаў якога стаялі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Алег Трусаў, Васіль Быкаў, Барыс Сачанка, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Радзім Гарэцкі, Зянон Пазняк, Вінцук Вячорка, Пятро Садоўскі, Міхась Яўневіч, дзесяткі іншых славутых дзеячоў, а таксама Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрствы адукацыі, культуры, інфармацыі, інстытуты мовазнаўства літаратуры, Беларускі фонд культуры, Таварыства "Радзіма", Беларускае таварыства дружбы.

Мы вітаем з'езд Нацыянальнага міністэрства адукацыі, якім на самай справе стала ТБМ. Мы вітаем арганізацыю, якая прымусіла лічыцца з сабою афіцыйныя дзяржаўныя структуры ў таталітарнай краіне, якія адказваюць Таварыству на беларускай мове.

Мы вітаем з'езд арганізацыі, якая аб'ядноўвае, лучыць усе дэмакратычныя партыі і рухі. Мы вітаем з'езд арганізацыі, з якой лічацца і прызнаюць дзяржавы Еўропы і свету.

Мы цвёрда перакана75ны, што жыве ТБМ – жыве Беларусь!

Просім першых кіраўнікоў Таварыства паслужыць яшчэ добрай справе – асвяціць нашы Дыпломы, якімі мы ганаравалі асветныя ўстановы і арганізацыі. Мы мяркуем імі ганараваць і слынных сыноў Бацькаўшчыны і просім прыняць нашы ганаровыя лісты кіраўнікоў ТБМ Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Алега Трусава.

***Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ.***

*(Прывітанне VII з'езду ТБМ ад ТБШ).*

# Прывітаньне зьезду ад БІНіМ

Паважаныя ўдзельнікі зьезду Таварыства Беларускай Мовы!

Ад імя Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Злучаных Штатах Амэрыкі шчыра вітаем Вас і жадаем плённай працы на ніве абароны беларускае мовы й звароту ёй ролі мовы дзяржаўнае, як гэта й прадбачана Канстытуцыяй краіны. На сёньняшні ж дзень, занядбанасьць беларускае мовы ў афіцыйным ужытку, у СМІ і ў выдавецкай галіне паказвае на непашану канстытуцыйных гарантыяў з боку дзяржаўнай улады. Калі ж ігнаруюцца фундамэнтальныя законы краіны, дык пра якую прававую аснову жыцьця народу можна гаварыць!

Спадзяёмся, што Ваша самаахвярная праца над вяртаньнем беларускай мове ейнага законнага месца ў жыцьці нацыі, у тым ліку ў адукацыйнай сыстэме ўсіх узроўняў, прынясе пажаданы плён: зьменшыць напружанасьць у беларускім грамадзтве ды спрычыніцца да росту культурнага й матарыяльнага дабрабыту.

Жыве Беларусь!

***З пашанай і найлепшымі пажаданьнямі Вітаўт Кіпель, старшыня ўправы БІНіМ.***

*Нью-Ёрк, 17 траўня 2001.*





**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**
**сп. Трусаву А. А.**
**ад старшыні Гарадоцкай Рады ГА ТБМ**
**імя Ф. Скарыны Гаравога Л. А.**

**Шаноўны Алег Анатолевіч!**

Гарадоцкая Рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на працягу апошніх год вядзе працу па ўшанаванню славутай паэмы "Тарас на Парнасе" на Гарадоччыне, бо яе найбольш верагодным аўтарам з'яўляецца Канстанцін Вераніцын, ураджэнец в. Астраўляны Гарадоцкага р-на.

Зараз пры падтрымцы Віцебскага дзяржаўнага універсітэта (прарэктар Дарафееў А.М.) вядзецца праца па адкрыцці музейнай экспазіцыі каля Гарадоцкага краязнаўчага музея: выраблены эскіз экспазіцыі, праведзена абмеркаванне. Адкрыццё экспазіцыі плануецца на пачатак ліпеня. Але неабходны сродкі для гэтай працы – 250 у. а.




Прашу дапамагчы ў зборы сродкаў для адкрыцця першага мемарыяльнага знака на Беларусі, прысвечанага літаратурнаму твору. Адкрыццё экспазіцыі будзе садзейнічаць росту нацыянальнай свядомасці грамадства, выхаванню павагі да роднага слова.

Фотаздымкі эскізу прыкладваюцца.

З павагай

**15 траўня 2001 г.** **Старшыня Гарадоцкай Рады Л. Гаравы.**



# Помнік няўміручай паэме

*Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса,*
*У палясоўшчыках што быў?*
*На Пуцявішчы, у Панаса,*
*Ён там, ля лазні блізка жыў…*

Гэтыя радкі ведае кожны беларус, бо імі пачынаецца знакамітая паэма, якая выклікае захапленне ўжо амаль паўтара стагоддзя. У сучаснай беларускай літаратуры паэма "Тарас на Парнасе" лічыцца шэдэўрам, які вывучае не адно пакаленне літаратуразнаўцаў. За апошні час большасць крытыкаў прызнае аўтарам славутай паэмы Канстанціна Вераніцына, ураджэнца вёскі Астраўляны Гарадоцкага раёна. Менавіта так пазначана аўтарства паэмы ў рукапісах выдатнага беларускага фалькларыста XIX ст. Аляксандра Рыпінскага. Аб гэтым сведчыць і шматгадовая даследчыцкая праца Генадзя Кісялёва, вынікі якой абагульнены на старонках кнігі "Ад Чачота да Багушэвіча".

За апошнія гады на Радзіме Вераніцына – у Гарадку праведзены шэраг літаратура-краязнаўчых чытанняў па праблеме тарасазнаўства, ініцыятарам якіх выступіў Віцебскі дзяржаўны універсітэт і Гарадоцкая Рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". Па выніках апошніх чытанняў Гарадоцкай Радай выдадзена невялічкая кніжка "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы". Правядзенне чытанняў асвятлялася ў друку, а ўдзел у іх прымалі даследчыкі паэмы Язэп Янушкевіч, Віталь Скалабан і іншыя навукоўцы.

Праца па ўшанаванню памяці славутай паэмы на Гарадоччыне падштурхнула арганізатараў чытанняў да адкрыцця каля Гарадоцкага краязнаўчага музея часткі музейнай экспазіцыі, прысвечанай няўміручай паэме. Плануецца ўстанавіць на вялікіх камянях дзве дошкі. Адна ўяўляе вокладку кнігі, на якой гаворыцца аб паэме, а другая – разгорнутую старонку паэмы "Тарас на Парнасе". На разгорнутай старонцы прыводзяцца чатыры радкі згаданыя вышэй, у цэнтры – постаць Тараса на Парнасе і каля яго: з аднаго боку краявіды Пуцявішча, а з другога – багі з якімі сустрэўся Тарас. На старонцы змешчаны словы Алега Лойкі: "Паэма стала патрыятычнай песняй, выражэннем любові да роднага слова, марай аб вялікім будучым беларускай літаратуры, паэтызацыяй узыходжання яе на Парнас…"

Але выраб музейнай экспазіцыі патрабуе пэўных фінансавых сродкаў, якіх арганізатарам не хапае. Пакуль выраблены толькі эскіз музейнай экспазіцыі.

*Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" заклікае арганізацыі, свядомых грамадзян пералічыць ахвяраванні на разліковы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі ААТ "Белбізнесбанка" код 764 з адзнакай "Помнік Тарасу" для адкрыцця помніка славутай беларускай паэме ў Гарадку.*

*Калі задуманае ажыццявіцца, то Гарадоччына атрымае першы помнік роднаму слову, які будзе выклікаць гонар за Бацькаўшчыну.*

# 46-ты Міжнародны кніжны кірмаш

16 мая 2001 года ў Варшаве ў Палацы культуры і навукі пачаўся 46-ты Міжнародны кніжны кірмаш, які з'яўляецца адным з буйнейшых мерапрыемстваў гэтага роду ў свеце пасля кірмашу ў Франкфурце-на-Майне. Сёлета мерапрыемствы ў рамках Кірмашу былі арганізаваны надзвычай урачыста. У цырымоніі адкрыцця ўдзельнічалі прадстаўнікі Канцылярыі прэзідэнта, Ураду, дэпутаты Сейму. Віншавальныя лісты ў адрас удзельнікаў і арганізатараў даслалі Прэзідэнт А. Квасьнеўскі, Прэм'ер-міністр Е. Бузэк, Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны М. Уяздоўскі. З вялікім святочным канцэртам выступіў Дзяржаўны ансамбль песні і танца Польшчы "Мазоўша".

Традыцыйна ў кірмашы ўдзельнічаюць і беларускія выдаўцы. На гэты раз у беларускім павільёне сваю прадукцыю прадставілі амаль усе дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі: "Мастацкая літаратура", "Беларусь", "Беларуская энцыклапедыя", "Вышэйшая школа", "Універсітэцкае" і іншыя, а таксама шэраг недзяржаўных.

17 мая адбылася прэзентацыя беларускай кнігі. Вялікую цікавасць наведвальнікаў беларускага павільёна выклікала прадстаўленая навуковая і гістарычная літаратура, энцыклапедычныя выданні, дзіцячыя кніжкі.

У мерапрыемствах Міжнароднага кірмашу ў Варшаве прымалі ўдзел Пасол Беларусі ў Польшчы Крэчка М. В., дыпламаты Пасольства.

З беларускімі выдаўцамі дасягнута дамоўленасць аб перадачы кніг, што выстаўляліся на кірмашы, Пасольству з мэтай арганізацыі ў бліжэйшы час выставы беларускай кнігі на Беласточчыне.

*Начальнік упраўлення інфармацыі,*
*прэс-сакратар МЗС Беларусі*
*Павел Латушка.*

Міністэрства культуры,
Рэдакцыі газет:
"Наша Ніва", "Наша слова","Народная воля"

Мы ўсхваляваны лёсам музея "Беларуская хатка".

Максім Багдановіч – гонар беларускай нацыі. І мы, беларусы, павінны зрабіць усё магчымае, каб імя Паэта і памяць аб ім надоўга засталіся ў сэрцах нашчадкаў.

Калі дзяржава не можа дапамагчы музею, то гэта зможам зрабіць усе мы разам.

Калі дазволім загінуць гэтаму апошняму прытулку Паэта на Беларусі, ці варты мы звацца Народам?

*Сярод гмахаў каменных –*
*Драўляны дамок.*
*Амаль сто год назад*
*Тут жыў Паэт.*

*Давыдзька, Мацкоўская, Сінькевіч і яшчэ пяць подпісаў.*

# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!

*Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на трэці квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 822 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.*

*Сакратарыят ТБМ нагадвае кіраўнікам структураў ТБМ, што яшчэ ёсць магчымасць падпісаць газету "Наша слова" на 3-ці квартал для бібліятэк, бальніц, дзіцячых дамоў і садкоў за кошт ТБМ. Для гэтага трэба даслаць запоўненыя квіткі на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

**Куды** ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

**Каму** ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 822 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча,ініцыялы)





# Нам патрэбна новая Беларусь і мы яе пабудуем!

## Даклад Сямёна Домаша на з'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі

**Шаноўныя сябры! Паважаныя замежныя госці!**

У адрозненне ад вядомага гаваруна, які выступае па 3 гадзіны, пастараюся не стамляць Вас і ўкласціся ў 20 хвілін. Я глыбока перакананы, калі б заробкі і пенсіі нашых людзей залежалі ад колькасці слоў, выказваных гэтым "змагаром за народ", то мы былі б ужо самай заможнай краінай у свеце.

Першае пытанне, якое Вы мне можаце задаць, і якое я шмат разоў задаваў сабе сам: чаму я прыняў рашэнне ўдзельнічаць у будучых прэзідэнцкіх выбарах? Мой выступ перад вамі – гэта і ёсць адказ на гэтае пытанне.

Не сумняваюся, што ўсіх нас, сабраўшыхся ў гэтай зале, аб'ядноўвае пачуццё грамадзянскай адказнасці за лёс нашай Радзімы. І адначасова пачуццё горычы за тое, што наша родная Беларусь стала чорнай дзіркай на мапе Еўропы, стала полем чарговага нецывілізаванага сацыяльнага эксперыменту.

Наша Беларусь мае велізарны патэнцыял. Бог даў нам багатую зямлю і месца ў цэнтры Еўропы. Нашыя людзі ўмеюць працаваць. Яны добрыя, гуманныя і адкрытыя, гатовыя прыйсці на дапамогу ўсім, хто трапіў у бяду.

Але сёння большая частка творчага і маральнага патэнцыялу грамадзянаў Беларусі заблакавана. Разрыў паміж чалавекам і ўладай за апошнія 7 гадоў рэзка павялічыўся.

Таўсцейшымі сталі сцены бюракратычных кабінетаў, абсталяваных мяккай мэбляй. Праз іх "слугі" не чуюць свайго народу.

Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што гэтыя 7 гадоў сталі бадай адным з самых цяжкіх перыядаў у шматвяковай гісторыі Беларусі. Як сказаў паэт, "бывали хуже времена, но не было подлей".

Сёння бачны поўны правал эканамічнай палітыкі першага прэзідэнта Беларусі. Прычым гаворка ідзе не пра асобныя памылкі, а пра прынцыповую недзеяздольнасць самой эканамічнай сістэмы. Праўда, узнікае пытанне: а ці ёсць наогул якая-небудзь сістэма?

У краіне створана мадэль, не здатная працаваць без надзвычайных мер. Нават для вырашэння самай дробнай гаспадарчай задачы ствараюцца штабы і ўсё новыя кантрольныя органы, ледзь не ўводзіцца "аблажнае" становішча.

Я прапаную кожнаму грамадзяніну Беларусі адказаць сабе толькі на адзінае пытанне: "Ці стаў ён сёння жыць лепш, чым 7 гадоў назад?!"

Пераможным рэляцыям улад аб "эканамічнай стабілізацыі" і нават "пачаўшымся гаспадарчым пад'ёме" народны фальклор даў дакладную назву – "стабілізец". Зараз праблема эканомікі Беларусі не столькі ў прастойванні, колькі ў наяўнасці супрацьлеглага вектару развіцця.

Улада аказалася ў руках невялікай групы людзей, якія не маюць досведу дзяржаўнага кіраўніцтва і якія і да гэтага часу не зразумелі, што дзяржава Беларусь – гэта не адсталы саўгас "Гарадзец".

Палітыка гэтых выпадковых кіраўнікоў прывяла да таго, што краіна жыве за кошт будучых пакаленняў.

Зараз стала бачна, што дзейнасць цяперашняга кіраўніка Беларусі, які ўтрымлівае ўладу незаконна, прадстаўляе сур'ёзную пагрозу беларускай дзяржаўнасці ў самым наўпростым сэнсе гэтага слова.

Трагедыя народа Беларусі ў тым, што такая святая для кожнай нацыі каштоўнасць, як дзяржаўны суверэнітэт, стала разменнай манетай ў не зусім чыстай палітычнай гульні кіраўнікоў Беларусі. Для іх незалежнасць краіны – гэта тавар, які яны выкарыстоўваюць дзеля вырашэння сваіх асабістых задач.

Ужо некалькі гадоў краіна знаходзіцца фактычна ў міжнароднай ізаляцыі. "Я своё общество за цивилизованным миром не поведу", - сказаў калісці беларускі правадыр. І гэта адзінае абяцанне, якое ён выконвае непахісна.

За гэты час краіна з дружалюбным і талерантным народам сумела сапсаваць адносіны практычна з усімі суседнімі краінамі, абвясціць ідэалагічную і дыпламатычную вайну ўсяму Захаду. Беларусь стала крыніцай еўрапейскай дэстабілізацыі, сусветным ізгоем.

Беларусь выпадае з працэсаў сусветнага развіцця. Кіраўніцтва краіны прадэманстравала поўную няздольнасць адаптавацца да новых гістарычных і геапалітычных умоў, уліцца ў новую сістэму міжнародных адносінаў, стварыць спрыяльныя і бяспечныя ўмовы для існавання беларускага грамадства.

Сур'ёзную пагрозу для ўсяго нашага народу прадстаўляе канстытуцыйна-прававы крызіс. У лістападзе 1996 года ў краіне адбыўся дзяржаўны пераварот. Была ліквідавана прадстаўнічая ўлада, а з ёю дэмакратыя і прававая дзяржава.



**На трыбуне Сямён Домаш.** *Здымак Артура Ганько.*

У краіне не дзейнічае прынцып верхавенства закону. Улады не выконваюць нават Канстытуцыю, якая была ўведзена ў выніку перавароту. Кіраўніцтва краіны не прызнае ні якіх прававых абмежаванняў сваёй дзейнасці. Вертыкаль у масавым парадку парушае правы і свабоды грамадзян.

Аўтарытарны рэжым пазбаўляе наша грамадства магчымасці выяўлення і адбору сацыяльных альтэрнатываў, выбару аптымальнай мадэлі развіцця. Заблакаваны механізмы карэктыроўкі памылковых рашэнняў. 10-мільённы народ стаў закладнікам нораву аўтарытарнага правіцеля, яго вельмі прымітыўных уяўленняў аб грамадстве.

Курс на ліквідацыю прававой дзяржавы пазбаўляе кіраўнікоў усіх узроўняў, гаспадарнікаў, прапрымальнікаў, усіх грамадзян уяўленняў аб тым, што магчыма, а што немагчыма. Разбурае прававую свядомасць грамадства, зацвярджае прававы нігілізм, прывучае людзей да думкі, што ўсе праблемы можна вырашыць не з дапамогай закону, а з дапамогай сілы.

У выніку па колькасці зняволеных на тысячу жыхароў Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце. Ва ўмовах прававога хаосу вінаватымі становяцца ўсе. Але да адказнасці прыцягваюць не ўсіх. Карупцыянерамі аб'яўляюць зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці.

Права стала інструментам палітычнай барацьбы. Сёння на Беларусі быць кіраўніком – адна з самых небяспечных прафесій. Усе гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах тэрору кантрольных органаў.

Усё гэта прывяло да рэзкага павелічэння сацыяльнага напружання. Пакуль яно не мае адкрытага праяўлення, але з цягам часу можа прывесці да сур'ёзных канфліктаў. Паглыбляецца раскол грамадства, што стварае наўпростую пагрозу і беларускаму народу і беларускай дзяржаве.

Такім чынам, сёння наша грамадства знаходзіцца перад гістарычным выбарам. Кіруючы рэжым стаў крыніцай павышанай небяспекі, паставіў Беларусь на рысу нацыянальнай катастрофы. Ён не здольны адказаць на выклік часу, ажыццявіць рэформы і мадэрнізацыю, пераход да новага ўзроўню грамадства, вывесці краіну на шлях прагрэсу.

Пытанне аб змене рэжыму выходзіць на ўзровень задачы нацыянальнага выратавання.

Так далей жыць нельга! Наш народ заслугоўвае лепшай долі, чым быць інструментам для задавальнення хваравітай цягі да ўлады аднаго чалавека.

Яшчэ пяць гадоў такога кіравання Беларусь не вытрымае!

Беларускае грамадства чакае пераменаў! Яно чакае і спадзяецца. Мы з Вамі можам даць людзям надзею на перамены да лепшага!

З усёй адказнасцю перад Вамі заяўляю, што я і тыя людзі, якія ідуць разам са мной, ведаем, як гэтыя перамены ажыццявіць.

Перш за ўсё, трэба пераадолець раскол нашага грамадства. Хопіць дзяліць народ на сяброў і ворагаў, на сваіх і чужых, на чэсных і нячэсных. Мы ўсе, незалежна ад палітычных поглядаў, узросту, полу, нацыянальнасці, рэлігійнай прыналежнасці, мовы -- дзеці гэтай зямлі! Яе хопіць на ўсіх! Дзеля выратавання нашага агульнага дома – Беларусі мы павінны кансалідавацца. Толькі разам мы зможам рэалізаваць сваю "беларускую мару".

Дзяржавай павінны кіраваць прафесіяналы. Пракуратуру павінен узначальваць прафесійны юрыст, а Нацыянальны Банк – фінансіст. Нам патрэбны ўрад народнага даверу, у склад якога павінны ўваходзіць прадстаўнікі розных палітычных сілаў.

Эканоміку трэба паставіць з галавы на ногі. Лячыць яе трэба не заклікамі, загадамі і пагрозамі, а прымяненнем механізмаў стымулявання.

Рэформы не будуць мець абвальны характар, а будуць паступовымі, паслядоўнымі і беспаваротнымі. Яны будуць праводзіцца не дзеля рэформаў, а дзеля таго, каб стварыць новыя працоўныя месцы, падняць заробкі працоўным, мадэрнізаваць вытворчасць, павялічыць яе эфектыўнасць.

Пры гэтым трэба скараціць колькасць падаткаў прыкладна ў 3 разы, а іх памер – у 2. Досвед Расіі яскрава паказаў, што рэзкае скарачэнне падаткаў вядзе да значнага павелічэння паступленняў у бюджэт.

Мы выкарыстоўваем станоўчы досвед па правядзенні рэформаў усімі нашымі суседзямі, а таксама ўлічым памылкі, каб іх пазбегнуць.

Адсутнасць энергетычнай і сыравіннай базы павінна быць кампенсавана адкрытасцю эканомікі, лібералізацыяй знешнеэканамічнай дзейнасці, стымуляваннем замежных інвестыцый.

Неабходна ліквідаваць усе перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва, зменшыць колькасць ліцэнзій, спрасціць заканадаўства, увесці заяўны прынцып стварэння юрыдычных асобаў.

У сельскай гаспадарцы трэба зыходзіць з прынцыпу свабоднага выбару формаў гаспадарання на зямлі.

Галоўнае, чаго мы павінны дасягнуць пераўтварэннямі ў эканоміцы, - гэта разбудзіць у нашых людзей пачуццё гаспадара.

Я не збіраюся ўступаць у спаборніцтва па абяцаннях памераў заработнай платы. Гэта задача ў першую чаргу кіраўнікоў прадпрыемстваў. Задача кіраўніцтва дзяржавы – стварыць такія магчымасці, каб чалавек мог зарабіць столькі, колькі ён хоча і колькі ён здольны. Мы створым краіну магчымасцяў, каб на сумленна заробленыя грошы кожны грамадзянін Беларусі мог пабудаваць дом, абсталяваць яго, забяспечыць жыццё сваёй сям'і, мець матэрыяльныя магчымасці для духоўнага інтэлектуальнага развіцця. У краіне будзе справядлівая сістэма сацыяльнага забеспячэння.

Жыллёвая праблема будзе вырашацца з дапамогай фінансава-крэдытных установаў: іпатэчных і камунальных банкаў, кватэрных зберагальна-пазычных кас.

Дзеля ўмацавання здароўя людзей патрэбна павялічыць у дзяржаўным бюджэце выдаткі на ахову здароўя, развіваць страхавую медыцыну.

Трэба ўзнавіць фінансаванне ўсіх, скарочаных за апошнія гады, чарнобыльскіх праграм.

Вяртанне людзей на забруджаныя радыяцыяй землі – гэта злачынства перад народам.

Фінансаванне адукацыі і навукі трэба лічыць стратэгічным інвестыцыяваннем. Неабходна стымуляваць недзяржаўныя інвестыцыі ў адукацыю і падрыхтоўку спецыялістаў. Па майму разуменню, трэба ўзяць кірунак на самакіраванне ВНУ, устанавіць кантроль за імі грамадскасці, а не чыноўнікаў.

Трэба правесці канстытуцыйную рэформу, аднавіць паўнавартасны Парламент, правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары на падставе прапарцыйна-мажарытарнай сістэмы.

Мы павінны забяспечыць сапраўдную незалежнасць судоў. Без гэтага не магчыма прававая дзяржава.

З самага пачатку дзейнасці новага кіраўніцтва краіны будзе забяспечаны прынцып падзелу ўладаў. Многія паўнамоцтвы прэзідэнта будуць перададзены Ураду і Парламенту.

Неабходна пашырыць правы органаў мясцовага самакіравання, іх паўнамоцтвы, фінансавую самастойнасць. Трэба пераўтварыць мясцовыя Саветы ў рэальныя органы ўлады.

Абвяргаю сцвярджэнне, што новы прэзідэнт разгоніць усіх работнікаў вертыкалі. Заяўляю аб будучым ўвядзенні выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў улады, як гарантыю іх працы ва ўладных структурах. Тым, хто карыстаецца павагай і аўтарытэтам у людзей няма чаго баяцца за сваю пасаду.

# Нам патрэбна новая Беларусь і мы яе пабудуем!

## Даклад Сямёна Домаша на з'ездзе грамадскасці рэгіёнаў Беларусі

Для грамадзян павінен дзейнічаць прынцып: "Дазволена ўсё, што не забаронена законам", а дзяржаўныя чыноўнікі павінны кіравацца прынцыпам: "Забаронена ўсё, што не дазволена законам".

Мы павінны дапамагчы міліцыі і спецслужбам заваяваць давер і павагу ў людзей. Скараціць іх колькасць да адпаведных памераў, на прыкладзе цывілізаваных краін. Пры гэтым забяспечыць годнай працай тых, хто будзе звальняцца.

На працягу пяці гадоў павінен быць забяспечаны пераход да прафесійнай арміі, пашыраны сацыяльныя гарантыі вайскоўцам, дзяржаўнае страхаванне іх жыцця і здароўя.

Будуць рэалізаваны спецыяльныя праграмы па вырашэнні праблем моладзі і жанчын. Моладзь павінна бачыць перспектывы жыцця ва ўласнай краіне, а не імкнуцца да эміграцыі.

Для забеспячэння свабоды слова трэба рэзка абмежаваць кантроль органаў улады над СМІ.

Кантроль над Белтэлерадыёкампаніяй будзе перададзены грамадскай наглядальнай Радзе, створанай на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў органаў улады, партый, грамадскіх арганізацый, журналісцкіх саюзаў.

У знешняй палітыцы Беларусь павінна выйсці з міжнароднай ізаляцыі, шукаць сяброў, а не ворагаў, стаць актыўным суб'ектам міжнароднай палітыкі, а не аб'ектам геапалітычнага спаборніцтва.

Беларусь можа і павінна стаць стабілізавальным элементам у сістэме агульнаеўрапейскай бяспекі, гарантам забеспячэння рэгіянальнага балансу сілаў.

Галоўнай задачай Міністэрства замежных справаў будзе – не дапусціць, каб на Заходняй мяжы Беларусі ўтварылася новая Бярлінская сцяна.

Адным з галоўных кірункаў знешняй палітыкі будзе замацаванне добрасуседскіх і ўзаемавыгадных эканамічных адносін з Расіяй. Наша канцэпцыя павінна грунтавацца на наступных прынцыпах:

- сяброўскія адносіны з Расіяй пры забеспячэнні суверэнітэту Беларусі;
- адмова ад палітычных, прапагандысцкіх гульняў, якія вядзе зараз кіраўніцтва Беларусі;
- акцэнт на эканоміку, а не на падпісанне віртуальных палітычных дамоваў;
- змяненне лозунгу "Беларусь з Расіяй супраць Еўропы" на лозунг "Беларусь – мост паміж Еўропай і Расіяй".

Узаемавыгадная эканамічная інтэграцыя павінна распаўсюджвацца не толькі на Расію, але і на суседнія краіны і на ўсю Еўропу. Такім чынам, мы будзем рабіць так, каб размешчаная ў самым цэнтры Еўропы, Беларусь заняла "свой пачэсны пасад між народамі".

Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду Прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследванне стану псіхічнага здароўя.

Будучае кіраўніцтва дзяржавы павінна вялікую ўвагу надзяляць узроўню маралі нашага грамадства, асабліва моладзі. Для гэтага, як веруючы чалавек, я лічу, што ўлады павінны ствараць умовы для развіцця рэлігійных канфесій, аказваць ім дапамогу і супрацоўнічаць з імі. Але пры гэтым у нас не павінна быць дзяржаўнай рэлігіі. Мы не маем права прапагандаваць якое-небудзь веравызнанне, прыніжаючы пры гэтым іншае. Галоўная задача дзяржавы – абапірацца на сапраўдныя хрысціянскія каштоўнасці ў выхаванні нашых людзей. Толькі веруючы чалавек жыве ў поўнай згодзе з самім сабой і з грамадствам.

Зразумела, што гэта не канчатковая праграма будучых пераўтварэнняў. Гэта тыя прынцыповыя падыходы да праграмы, якая распрацоўваецца маёй камандай і з якой мы плануем ісці на выбары.

Народ Беларусі мае багатую і слаўную гісторыю. За намі стаяць ваяры Грунвальдскай бітвы, дзяржаўныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага, героі нацыянальна-вызвольных паўстанняў, апосталы нацыянальнага адраджэння пачатку 20-га стагоддзя, змагары супраць фашызму апошняй вайны.

Мы павінны быць годнымі нашай вялікай гісторыі. Ні яна, ні нашы дзеці і ўнукі не прабачаць нам, калі мы аддамо яе ў рукі палітычным авантурыстам, і страцім Беларусь.

Паглядзіце, колькі нас тут. А гэта кропля ў моры людзей, якія жадаюць пераменаў да лепшага. Мы павінны выкарыстаць кожны, нават самы маленькі шанец, каб растлумачыць грамадзянам Беларусі, што ёсць выйсце, ёсць альтэрнатыва цяперашняму становішчу.

І, калі мы ўсе разам будзем працаваць на перамогу – мы абавязкова пераможам. Галоўнае паверыць у гэта і ў свае сілы.

Я веру, што адсюль пачнецца шлях да нашай перамогі на выбарах.

Нам патрэбна новая Беларусь і мы яе пабудуем!

26.05.2001 г., г. Менск.




**Малітвай завяршаюць з'езд светары Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы.**
*Здымак Артура Ганько.*

# Моўны кансіліюм з Іванам Лепешавым

"Ты становішся вядомым лінгвістам," – пажартаваў сябра і паказаў кніжку І. Лепешава "Дазнанні", дзе знакаміты аўтар прысвяціў аж дзве старонкі спрэчкам са мной. Гэта стала нагодай, каб азнаёміцца з усім зместам кнігі.

Шмат якія меркаванні спадара Лепешава былі знаёмыя мне па яговых ранейшых публікацыях у прэсе і знаходзілі водгук у маім сэрцы. І цяпер я з цікавасцю і задавальненнем прачытаў яго роздум пра Купалу і Пушкіна і пра шмат кагосьці іншае. Я не стану тут пералічваць тое, што мне ў Лепешава падабаецца і з чым я згодны, бо пералічваць прыдзецца доўга. А спынюся толькі на тым, што выклікае нейкія мае пярэчанні. І пачну з памянутых дзвюх старонак, дзе аўтар, разважаючы пра наш правапіс, узгадвае адзін мой артыкул, надрукаваны больш за два гады таму ў "Нашым слове".

Слушна адзначаючы некаторыя недакладнасці майго невялічкага артыкула, передрукаванага "Нашым словам" з газеты "Тыднёвік Магілёўскі", прычына якіх у недастаткова добрым веданні мною гісторыі мовы, у прыватнасці яе перадрэформеннага (да 1933 г.) перыяду, аўтар выказвае меркаванне, што бяздумнае вяртанне да тарашкевіцы шкоднае, што і сам Тарашкевіч бачыў "цэлую чараду спрэчных пытання...". Гэта так. Я пагаджуся (і дарэчы пісаў пра гэта ў сваім артыкуле), што тарашкевіца выгляду 30-х гадоў сёння не можа быць уведзена цалкам, як моўная норма. Шмат вады сплыло і шмат новай прыплыло. Але ж прыняць яе за аснову больш натуральна, чым сённяшнюю наркамаўку. Менавіта з-за таго самага "фанатычнага кансерватызму" арфаграфіі, пра які пісаў Л. Булахоўскі і пра які ўзгадвае І. Лепешаў. Што ні кажы, а змены ў правапісе, уведзеныя ў 1933-м, не былі падрыхтаваныя моўнай практыкай, а таму ўводзіліся "самачынна" (хаця гэта і было "на дзяржаўным узроўні").

Мне здаецца, што калі чалавека асудзілі з канфіскацыяй маёмасці, а потым разабраліся, што ён невінаваты, то мала яго выпусціць з пастарунку. Трэба вярнуць і канфіскаваную маёмасць, нават не зважаючы на тое, будзе ён жыць у сваёй ранейшай хаце ці не будзе. Так і з мовай. Гэткая паралель бачыцца мне тут цалкам натуральнай.

Далей – аб тым, як ствараецца-развіваецца мова. Мне, у адрозненне ад І. Лепешава, падаецца, што кожнае новае слова ці яго варыянт прыдумляе не народ, а нейкі асобны чалавек. Зусім неабавязкова ён павінен быць літаратарам, журналістам ці мовазнаўцам. Гэта можа і просты сялянін (што бывае даволі часта), і зэк. Далей удалае слова могуць падхапіць іншыя, пачаць яго ўжываць у сваёй мове ўсё шырэй і шырэй, - так яно стане моўнай нормай. Нехта (зноў жа адзін чалавек!), заўважыўшы гэта, зробіць новае слова, ці ягоны варыянт, ці словазварот нормай літаратурнай, увядзе ў слоўнікі, у падручнікі і г.д. Натуральна, што з няўдалым словам гэтага не адбудзецца.

Нехта першы сказаў "спадар" замест "таварыш" – і гэта прыжылося. Нехта паспрабаваў замяніць "гальштук" на "шыявяз" – пакуль не прайшло. І не трэба тут ні ўшаноўваць першага, ні аблайваць другога: усё гэта – звычайныя рэчы. Кожны носьбіт мовы – адначасова і яе стваральнік. А народ тут – хутчэй прыёмшчык, дасціпны рэцэнзент, кантралёр і цэнзар.

Колькі разоў і мне даводзілася выступаць у ролі словатворцы. Напрыклад, сучасныя слоўнікі перакладаюць расейскае *"парус"* як *"ветразь"*, а *"парусник"* чамусьці як *"парусьнік"* (зноў жа, спадар Лепешаў, гэта моўны "жарт" нейкага асобнага і не вельмі разумнага чалавека, народ да такога сам бы не дадумаўся). У маіх пісаннях гэтае слова падаецца як *"ветразень"*. "Наша слова" прыняло такі варыянт, "Раніца" не прыняла. Але я буду настойліва карыстацца "сваім" словам у спадзяванні, што яно некалі стане нормай. Буду, нягледзячы на тое, што я не лінгвіст, а настаўнік матэматыкі. І якая рэзалюцыя ці зацверджаная дзяржавай літаратурная норма можа мне гэта забараніць? Эмацыйнасць і агрэсіўнасць маёй самаабароны будуць тут не меншымі, чым у шаноўнага І. Лепешава ў дачыненні да сваіх уласных меркаванняў. Нават досыць спрэчных. Напрыклад, такога: "Сучасная беларуская літаратурная мова такая ж унармаваная, як і іншыя развітыя літаратурныя мовы". На вялікі жаль, не такая ж, што выразна прадэманстраваў судовы працэс над правапісам "Нашай нівы".

Цікава тут тое, што аўтар, не прызнаючы за асобным носьбітам мовы права на моватворчасць (нават калі гэта мовазнаўца!), сам ахвотна моватворчасцю і ўнармаваннем займаецца. Напрыклад, ён абараняе не ўласцівае для беларускай мовы словазлучэнне *"больш таго"* (мне здаецца досыць відавочнай правільнасць *"больш за..."* ці *"больш, чым..."*). Іншыя яго пярэчанні Паўлу Сцяцко падаюцца мне ў меншай частцы слушнымі, часцей – не. Хаця ў любым выпадку я не адмаўляю іх карыснасці.

Спрэчным падаецца мне творны склон у слове *"старшыня"*, які выкарыстоўвае І. Лепешаў: *старшынёй*, хаця такое я сустракаю і ў слоўніках. На мой слых чуецца тут: *старшынём*, як і *пераможцам, мужчынам, цялём*. Канчатак з *"й"* больш характэрны для жаночага роду. Але хто нас з І. Лепешавым тут рассудзіць? Толькі народ (калі ён выжые) ды час.

Яшчэ адну папулярную памылку робіць спадар Лепешаў у прыказцы *"На табе, божа, што нам нягожа"*. Ні ў аднаго народа (і ў беларускага таксама) няма такой зняважлівай для Бога прыказкі. Браткі-украінцы, да прыкладу, кажуць так: *"На тобі, небоже, що мені негоже"*. *Нябога – бядак, небарака*. А пры Саветах з гэтай прыказкі, адкінуўшы дзве літары, зрабілі атэістычную прапаганду, якую спадар Лепешаў гатовы ўжо лічыць нормай.

Нарэшце пра тое, што і выклікала мой сверб паспрачацца з шаноўным мовазнаўцам. У памянутым сваім артыкуле я выказаўся пра неабходнасць асобных знакаў для напісання літар "дж" і "дз". Ідэя не мая. Яна ўжо даўно выспявае і дае сякія-такія парасткі. Напрыклад, У. Дубоўка выдаваў з такімі літарамі сваё "Узвышша".

І. Лепешаў адмаўляе мэтазгоднасць такой змены ў беларускім алфавіце. І аргументуе гэта спасылкай на іншыя мовы. Мауляў, у нямецкай мове гук "ш" перадаецца спалучэннем трох літар, а гук "ч" – нават чатырох. І не ўводзяць, бач, асобных знакаў для "ш" і "ч".

Гэта нагадвае мне наступны пасаж: "Ну і што, калі мае поле зарасло пустазеллем? Вунь і на суседскім полі яго хапае!" Думаю, што нямецкая мова толькі б выйграла ад увядзення асобных знакаў замест *"sch"* і *"tsch"*. Але гэта праблема немцаў, і я ім тут не ўказчык. А вось меркаванні пра якасць беларускай мовы і яе алфавіту маю і не хачу трымаць іх пад спудам. Магу паведаміць, што з маім удзелам рыхтуецца часопіс для беларускіх настаўнікаў матэматыкі, дзе замест "дз" будзе выкарыстоўвацца знак "z", а замест "дж" – знак "ʒ".

Шаноўны аўтар "Дазнанняў" парушыў тут логіку сваёй кнігі, выдаўшы замест дазнання пра гукі "дз" і "дж" сваё ўласнае не аргументаванае меркаванне.

Што ж тычыцца несвоечасовасці ўсіх падобных моўных спрэчак, маўляў, "Хата гарыць! Не да матавіла!" (г.зн. не да мовы!), дык скажу так: хата наша гарыць ужо 305 гадоў і яшчэ доўга будзе гарэць. Так мы ніколі да мовы і не дабярэмся, каб ачысціць яе, адмыць, упрыгожыць, вярнуць уласцівую ёй мілагучнасць і напеўнасць і пасадзіць у чырвоны кут дзяржавы, на сваё законнае месца.

Давайце займацца мовай. Яна даўно таго чакае.

*Міхась Булавацкі, Магілёў.*

# ПЛЁН ДЗЕСЯЦІГАДОВАЙ ПРАЦЫ

Не будзе перабольшваннем сцверджанне, што апошнія дзесяць гадоў у справе захавання культурнай спадчыны народа Беларусі былі няпростымі, але ж і плён іх відавочны. Віцебшчына. Край блакітных азёраў, векавечных лясоў, маляўнічых пагоркаў і непраходных балотаў, багатая на адметныя помнікі даўніны. Далёка за межамі Беларусі вядомы паселішчы чалавека перыядаў неаліту і бронзы, якія захаваліся ў тоўшчах Крывінскага тарфяніку. Многія селішчы і гарадзішчы раскіданыя па маляўнічых паплавах шматлікіх рэк і рэчак беларускага Паазер'я.

Прыдзвінская зямля стала калыскай нашай дзяржаўнасці. Бацька гарадоў беларускіх, старадаўні Полацак, паўстаў у сутоцы паўнаводнай некалі Заходняй Дзвіны, і пакручастай імклівай Палаты. Віцебск, Браслаў, Паставы, Орша, Глыбокае. Кожны з гэтых гарадоў адметны сваім абліччам, славуты помнікамі даўніны. Слава беларускіх дойлідаў засведчана ў мурах цэркваў 12 ст. Спаса і Дабравешчання, Сафіі, у многіх іншых барочных, класічных, неагатычных збудаваннях, збудаваных, выпеставаных таленавітымі рукамі нашых продкаў.

Слаўныя справы даўніх муляроў, цесляроў, плінфаробаў, жывапісцаў працягваюць рэстаўратары Віцебшчыны і сёння. Засведчаны дасягненні тамтэйшай рэстаўрацыйнай школы ў дзесятках адроджаных будынкаў, у якіх месцяцца музеі, дамы рамёстваў, мастацкія школы, карцінныя галярэі, узносяцца малітвы Богу.

Пра некаторыя дасягненні на ніве адраджэння нацыянальнай спадчыны гаворыцца ў маляўнічай брашуры, выпушчанай летась Віцебскімі абласнымі выканаўчым камітэтам і Саветам дэпутатаў, якая так і названа "Адраджэнне". Распачынаецца выданне пранікнёнымі словамі вялікага Францішка Скарыны пра цягу і любоў кожнай жывой істоты, а перадусім чалавека да свайго роднага краю. Уступны артыкул старшыні Віцебскага аблвыканкаму Уладзіміра Андрэйчанкі сведчыць пра разуменне цяперашнім кіраўніцтвам вобласці вартасці непарыўнай повязі мінулага і сучаснасці, як трывалага падмурку будучыні.

У выданне ўключаны 35 выяваў выдатных помнікаў дойлідства, якія вернутыя да жыцця цягам апошняга дзесяцігоддзя руплівцамі Віцебскага краю. Шырокі спектр стыляў і вобразаў старажытных мураванак сведчыць пра багацце нашай зямлі непаўторнымі талентамі, аб трывалай пераемнасці традыцый, пра любоў да роднага краю сучаснікаў.

У брашуры знойдзены ўдалы прыём, калі поруч з некаторымі маляўнічымі фотаздымкамі з выявай аднаўленага помніка архітэктуры паказаны яго стан да рэстаўрацыі. Гадамі стаялі яны без дахаў, з праломамі ў сценах, з пустымі вачніцамі-вокнамі... Здаецца, ніякая сіла не адродзіць з нябыту гэтыя занядбаныя спаруды, ніхто не здолее ўдыхнуць у іхнія астылыя муры дух адраджэння.

Ды з Божае ласкі і рупнасцю чалавечай будынак за будынкам, быццам тыя казачныя волаты, выпростваюць свае магутныя плечы-муры, свецяцца адрэстаўраванымі фасадамі,ззяюць навюткімі дахамі. І ўсё адбылося, быццам бы, у адно імгненне. Але ж над кожным будынкам шчыравалі дзесяткі спецыялістаў. Вывучалі, даследавалі, абмацвалі рукамі ці не цагліну за цаглінай. Як тыя шчырыя лекары, старанна высвятлялі прычыны хваробы мураванак, вынаходзілі адмысловыя лекі, каб, крый Божа, не нашкодзіць старадаўняй будыніне, каб у кожнай пазнавалася праца і талент далёкіх продкаў, каб дакрануўшыся да плінфаў Даборавешчанскай царквы 12 ст., што ўзноўлена сярод гаманы сучаснага Віцебска, ці, зайшоўшы ў колішні аршанскі млын пачатку мінулага стагоддзя на агледзіны музейнай экспазіцыі, мы пачулі галасы багатага на падзеі часу.

Распавядаць пра маляўнічую ілюстраваную брашуру няпроста. Адзін толькі пералік адроджаных архітэктурных славутасцяў гаворыць сам за сябе: полацкія Сафія і Багаяўленская царква, касцёлы Святой Ганны ў Мосары, Тройцы ў Глыбокім, Варвары ў Віцебску, комплекс Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора ў Віцебску, Свята-Духаўская царква ў Куцеінскім манастыры ў Оршы, музей-сядзіба Іллі Рэпіна ў Здраўнёве. Гэтыя і шматлікія іншыя помнікі даўніны, вернутыя да жыцця рукамі нашых сучаснікаў.

Найлепей выпраўляцца ў вандроўку і аглядаць помнік архітэктуры ў яго натуральным асяроддзі: у атачэнні дрэў, над рачным поплавам. Таму выданне можа стаць і пэўным дапаможнікам для турыста. Тым больш, што на апошняй старонцы вокладкі пададзена карта Віцебскай вобласці з пазначэннем гістарычных гарадоў і помнікаў даўніны.

Гэта апошняя акалічнасць выкарыстання брашуры ў якасці даведніка для турыстаў дазваляе пашкадаваць, што тэксты пад ілюстрацыямі празмерна сціплыя. У іх не названыя аўтары праектаў і выканаўцы рэстаўрацыйных работ. Не лішнія былі б больш поўныя звесткі пра крыніцу і аб'ём іх фінансавання. Не шкодзіла б крыху пашырыць інфармацыю пра гісторыю кажнага з помнікаў архітэктуры і пра цяперашніе іх выкарыстанне.

Ёсць у выданні і здымкі двух выдатных збудаванняў, страчаных у мінулым стагоддзі і прымеркаваных для аднаўлення ў першым дзесяцігоддзі стагоддзя цяперашняга. Гэта велічны Успенскі сабор і мініяцюрная ў параўнанні з ім Уваскрасенская царква, якія вызначылі адметнасць забудовы старажытнага Віцебска і безпамылкова пазнавальныя на старых гравюрах і фотаздымках горада. Унікальная па свайму характару аднаўленчыя работы вымагаюць асобай гаворкі з улікам рэгенерацыі забудовы гістарычных кварталаў абласнога цэнтра.

Усё гэта, трэба спадзявацца, зможа знайсці адлюстраванне ў чарговым выданні аб славутасцях Віцебшчыны. Падставай для такой надзеі з'яўляецца няўрымслівасць прадаўжальнікаў слаўных спраў сваіх породкаў, якія нястомна шчыруюць над адраджэннем старадаўніх мураванак у Віцебску і Полацку, у Браславе і Паставах, у Дуброўне і Оршы, у Лынтупах і Бігосаве.

А яшчэ было б добра, каб ініцыятывувіцьблянаў падхапілі на Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне, Гомельшчыне, Меншчыне і Магілёўшчыне. Па ўсёй Беларусі паказаць ёсць што. І не трэба саромецца казаць пра свае добрыя справы.

*Аматар Даўніны.*

# Боль зямлі курдскай, боль зямлі беларускай…

Тэатр аднаго актора "Зьніч", што месціцца ў сутарэннях касцёла святых Алены і Сымона, гасцінна прымаў удзельнікаў цыклу музычна-паэтычных вечарын "Тры сустрэчы". У іх праграме былі прэзентацыя зборніка паэзіі курдскага паэта Г. Чарказяна ў перакладзе Р. Барадуліна, а таксама цыкл песень "Асяніна" на творы філасофскай лірыкі Г. Чарказяна ў выкананні званага барда Алеся Камоцкага.

Ва ўступным слове да канцэрту Р. Барадулін адзначыў, што свет паэзіі Г. Чарказяна – гэта свет яго продкаў, свет старажытнай і амаль невядомай нам курдскай цывілізацыі. Да таго ж, Генадзе Бадыр Ага (такое поўнае імя паэта) -–адзіны курдскі паэт, які жыве ў Беларусі і чые кнігі выдаюцца па-беларуску.

Паэзія Г. Чарказяна – голас 40-мільённага курдскага народа, які імкнецца да сваёй дзяржаўнасці і незалежнасці насуперак гістарчнай і палітычнай несправядлівасці.

Рыгор Барадулін і артыст В. Галузa пранікнёна чыталі вершы Г. Чарказяна з толькі што выдадзенага зборніка "Чаргаві", прасякнутыя павагай да культуры і мовы яго народа, а таксама, да мовы і гістарычнай спадчыны новай радзімы – Беларусі.

Бард Алесь Камоцкі прадставіў на суд слухачоў песні з альбома "Асяніна" на вершы курдскага паэта – творы меладычныя і, у той жа час, поўныя філасофскага роздуму пра хуткацечнасць чалавечага жыцця, пра тое, што сын сваёй зямлі павінен шмат зрабіць для свайго народа покуль "сляпая і нямая дамавіна" схавае нас у гэтай зямлі…

У песнях А. Камоцкага на вершы Г. Чарказяна вельмі чулліва перададзены сум вымушанага эмігранта, які на чужыне марыць пра родныя краявіды яго дзяцінства, даражэйшыя за ўсё на свеце.

Асобная частка творчасці А. Камоцкага і "Трох сустрэч" – рамансы, што створаны на вершы Р. Барадуліна, У.Караткевіча, Л. Геніюш, Г. Чарказяна. Сапраўды, вытанчанаму лірыку Камоцкаму зусім мала заставалася, каб сваімі меладычнымі і неспешнымі песнямі ўступіць у межы гэтага жанра – раманса. Сёння лепшыя рамансы – "Дагарала свечка ў цішыні", "Божа" – візітоўка новай праграмы знанага барда.

А яшчэ Алесь Камоцкі здзівіў як выдавец: пад час правядзення канцэрта-вечарыны "Тры сустрэчы" слухачы з імпэтам набывалі альбомы барда "Псалмы", "Зорка спагады", "Асяніна", "Гойкнуў баравік" з песнямі ў выкананні Рыгора Барадуліна.

Так з дапамогай камп’утарнай тэхнікі Алесь сам пераносіў лічбавы запіс на дыскі, рабіў дызайн і выдрукоўваў вокладкі... А ў выніку дыскі атрымаліся не такія дарагія, як у большасці выдавецкіх фірм і аказаліся па кішэні слухачам.

Ну а завяршыліся "Тры сустрэчы" прыпеўкамі ў выкананні Рыгора Барадуліна, песнямі, якія спявала паэту маці. Слухачы з захапленнем віталі Рыгора Іванавіча, якія знайшоў сваю новую творчую і пастась – выканаўцы народных песень і прыпевак сваёй малой радзімы – Ушаччыны.

У зале тэатра "Зьніч" прысутнічалі курдскія госці, шматлікія прыхільнікі творчасці Г. Чарказяна, Р. Барадуліна і А. Камоцкага.

А намеснік генеральнага консула амбасады ЗША, які прысутнічаў на "Трох сустрэчах", на добрай беларускай мове зазначыў: "Паважаны спадары! Я вельмі ганаруся, што трапіў на цудоўны канцэрт лепшых беларускіх, а значыць і еўрапейскіх зорак. Вялікі дзякуй усім вам!" Нам застаецца далучыцца да гэтых слоў і чакаюць новых сустрэч з музыкай і паэзіяй Г. Чарказяна, Р. Барадуліна і А.Камоцкага.

*Анатоль Мяльгуй.*




Клуб беларускай культуры ДК "ФанДОК" "Роднасць",

Бабруйская суполка Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны,

Бабруйская гарадская суполка Таварыства беларускай школы

**2 чэрвеня праводзяць 4 конкурс беларускай бардаўскай песні і паэзіі ў г. Бабруйску.**

**"ВОЛЬНАЕ ВОГНІШЧА 2001"**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца ўсе хто піша альбо спрабуе пісаць песні і вершы па-беларуску і жыве ў г. Бабруйску, Глускім, Клічаўскім і Асіповіцкім раёнах.

Узрост без абмежаванняў.

Конкурс будзе праводзіцца па двух намінацыях:
1. Бардаўская песня.
2. Паэзія.

У кожнай з намінацый прысуджаюцца па 3 прэміі і прэмія сімпатый, прадугледжаны прэміі за ўдалы дэбют, а таксама падарункі ўсім удзельнікам конкурсу.

Падтрымка і разуменне сяброў гарантуюцца кожнаму.

Конкурс адбудзецца на прыродзе, збор а 19.00 каля ДК "ФанДОК"

Далучайцеся – не пашкадуеце!

Рэдактар Станіслаў Суднік

Кантактныя тэлефоны: 58-16-89, 7-61-68, 7-08-42.

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 05. 2001 г.
Наклад 5000 асобнікаў. Замова № 1232.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.